*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*



# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 28 верасня 1990 г. № 39 (3553) ● Цана 10 кап.**



А. ФІНСКІ. «Прысвячэнне».



Г. ЛОЙКА. «Загадка Скарынава герба».



А. КАЛАСЕНЦАВА. «Удзячны край».



Ю. МАКАРАЎ. «Леў Сапега».

**Не кожны чалавек можа сказаць, што ягоны народ меў сваю дзяржаву ўжо тысячу гадоў назад. Беларус можа. Многія народы ўпершыню пачулі тэкст Бібліі на сваёй мове з няшчырых вуснаў місіянера-чужаземца, які з'явіўся ўслед за салдатам-заваёўнікам... Слова Божае па-беларуску мы пачулі ад Скарыны, вялікага патрыёта нашай зямлі. І слова гэтае ўжо амаль 500 гадоў бароніць духоўную свабоду беларускага народа ад агрэсіўных памкненняў усялякіх прыблудных апекуноў. Не кожная краіна мае Першадрукара. Беларусь мае. Таму і жыла Беларусь у Скарынавым слове пасля таго, як імя яе было сцерта з палітычнай мапы Еўропы. Слова застаецца пасля ўсяго, і ўсё пачынаецца са Слова. Сёння Скарынава слова гучыць гімнам Адраджэння, Скарынавы герб — на шчыце Пагоні.**

Нататкі аб беларускай мастацкай Скарыніяне чытайце ў бліжэйшых нумарах «ЛіМа».

# Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР

Сёння, калі ў краіне нарастаюць працэсы перабудовы, ажыццяўляецца рэформа палітычнай сістэмы, перад грамадскасцю і насельніцтвам рэспублікі паўстаюць праблемы, якія патрабуюць свайго вырашэння ў самыя кароткія тэрміны. Сярод гэтых складаных праблем, што закранаюць свядомасць і пачуцці мільёнаў жыхароў Беларускай ССР, на першы план выступаюць пытанні дзяржаўнага суверэнітэту, захавання і развіцця нацыянальнай беларускай культуры, роднай мовы, культуры і моў іншых нацыянальных супольнасцей, якія жывуць у рэспубліцы, звычаяў, укладу жыцця, адраджэння гістарычнай і культурнай спадчыны. Усё больш людзей у рэспубліцы ўсведамляе, што мова не толькі сродак зносін. Яна аснова культуры народа, яе найважнейшая састаўная частка. Гістарычна і этнічна тэрыторыя Беларускай ССР з'яўляецца месцам пражывання беларускай нацыі. Тут узніклі і склаліся яе культура, мова, традыцыі і звычаі.

Адна з галоўнейшых задач у развіцці беларускай культуры — клопат пра беларускую мову, якая павінна заняць сваё дастойнае месца ў жыцці беларускага народа. Рэзкае звужэнне сфер функцыянiравання беларускай мовы прывяло да страты ў значнай частцы насельніцтва пачуцця каштоўнасці нацыянальнай культурнай спадчыны, да дэфармацыі нацыянальнай самасвядомасці.

Сёння ж роля беларускай мовы ў культурнай, грамадска-палітычнай, гаспадарчай сферах неправамерна зніжана, што выклікае занепакоенасць грамадзян Беларускай ССР.

Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР распрацавана ў адпаведнасці з Законам Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР», Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР «Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», з улікам прапаноў міністэрстваў і ведамстваў, выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў, грамадскіх арганізацый, грамадзян рэспублікі.

Выкананне Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР будзе садзейнічаць адраджэнню і развіццю мовы і культуры беларускага народа, свабоднаму і раўнапраўнаму выкарыстанню родных моў грамадзян іншых нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі.

## I. Асноўная мэта і напрамкі рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы

Асноўнай мэтай Дзяржаўнай праграмы з'яўляецца распрацоўка і ажыццяўленне як першачарговых, так і доўгатэрміновых мер, якія павінны забяспечыць шырокае і актыўнае выкарыстанне беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай ва ўсіх сферах культурнага, грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця рэспублікі, свабоднае функцыянiраванне на тэрыторыі Беларускай ССР рускай мовы як сродку міжнацыянальных зносін народаў СССР, а таксама іншых нацыянальных моў.

Праграма будзе выконвацца паступова, у тэрміны, вызначаныя пастановай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 26 студзеня 1990 г. «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР». У яе выкананні прымуць непасрэдны ўдзел міністэрствы і ведамствы, выканкомы Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы, творчыя саюзы і іншыя грамадскія арганізацыі. Рэалізацыя праграмы патрабуе фінансавых і матэрыяльных сродкаў.

Асноўнымі напрамкамі па практычнаму ажыццяўленню Дзяржаўнай праграмы вызначаюцца:

стварэнне ўмоў для свабоднага карыстання насельніцтвам рэспублікі беларускай і іншымі мовамі;

забеспячэнне функцыянiравання беларускай мовы, а пры неабходнасці — выкарыстанне рускай і іншых моў у дзяржаўных і грамадскіх установах, на прадпрыемствах і ў арганізацыях рэспублікі незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці;

павышэнне ролі агульнаадукацыйнай школы, усіх выхаваўчых, навучальных і культурна-асветных устаноў у пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы і функцыянiраванні іншых моў на тэрыторыі рэспублікі;

падрыхтоўка і выданне неабходнай вучэбна-метадычнай, тэрміналагічнай, навукова-папулярнай, даведачнай літаратуры, падручнікаў і дапаможнікаў, слоўнікаў і размоўнікаў;

пашырэнне і ўдасканаленне падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі нацыянальных кадраў і стварэнне для гэтага неабходных умоў;

арганізацыйнае, навуковае, фінансавае і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне рэалізацыі Закона.

## II. Забеспячэнне функцыянiравання беларускай і іншых моў у дзяржаўных органах, на прадпрыемствах і ва ўстановах, у грамадскіх арганізацыях рэспублікі

З мэтай стварэння неабходных умоў для авалодання беларускай мовай работнікамі органаў дзяржаўнай улады і кіравання, грамадскіх арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў, усімі грамадзянамі рэспублікі:

1. Міністэрствам і ведамствам БССР, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў сумесна з грамадскімі арганізацыямі, улічваючы палажэнні праграмы, распрацаваць мерапрыемствы па рэалізацыі Закона Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР» з тым, каб забяспечыць пераход да ўжывання беларускай мовы ва ўсіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця, у рабоце прадпрыемстваў і ўстаноў, а таксама ўжыванне моў грамадзян іншых нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі.

**1990 год**

2. Дзяржаўнаму камітэту БССР па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва, Міністэрству народнай адукацыі БССР, Міністэрству юстыцыі БССР сумесна з зацікаўленымі міністэрствамі, ведамствамі і грамадскімі арганізацыямі рэспублікі ў 1990 годзе падрыхтаваць пералік пасад, для заняцця якіх патрабуецца веданне беларускай мовы, рускай або іншай мовы, а таксама звязаныя з гэтым кваліфікацыйныя патрабаванні для заняцця гэтых пасад. Міністэрствам і ведамствам БССР, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемствам, арганізацыям і ўстановам выявіць патрэбу ў спецыялістах, якія павінны валодаць беларускай мовай, і ў залежнасці ад іх ведаў арганізаваць курсы па вывучэнню беларускай мовы для розных катэгорый работнікаў. Вылзеліць для гэтай мэты неаб-

(Працяг на стар. 2—3).

# Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР

(Пачатак на стар. 1).

**ходныя памяшканні і матэрыяльна-тэхнічныя сродкі. Міністэрству фінансаў БССР, Дзяржаўнаму камітэту БССР па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва сумесна з зацікаўленымі арганізацыямі ў 3-месячны тэрмін вызначыць парадак адкрыцця курсаў і крыніцы іх фінансавання.**

**Уключыць у навучальныя планы інстытутаў і факультэтаў перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў народнай гаспадаркі лекцыі і практычныя заняткі па беларускай мове і справаводству на ёй.**

**Міністэрству народнай адукацыі БССР сумесна з Акадэміяй навук БССР, таварыствам «Веды» БССР і Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны да 1991 года распрацаваць вучэбныя праграмы і планы для курсаў беларускай мовы (з улікам ступені валодання моваю і спецыфікі прафесійнай дзейнасці), а Дзяржаўнаму камітэту БССР па друку ў I квартале 1991 г. выдаць іх у неабходнай колькасці па заказах міністэрстваў і ведамстваў БССР, выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў;**

**выпрацаваць навукова-метадычныя рэкамендацыі для кіраўнікоў і выкладчыкаў курсаў, арганізаваць для іх адпаведныя семінары і кансультацыі.**

Міністэрству народнай адукацыі БССР, Акадэміі навук БССР, Міністэрству культуры БССР, іншым міністэрствам і ведамствам, якія маюць навучальныя ўстановы, стварыць на гаспадарчаразліковай аснове курсы, школы, народныя універсітэты па практычнаму вывучэнню беларускай мовы ўсімі, хто жадае авалодаць ёю.

Выкарыстоўваць настаўнікаў, выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры (у тым ліку пенсіянераў), а таксама студэнтаў-старшакурснікаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў для выкладання беларускай мовы на курсах рознага тыпу.

**1990—1995 гады**

3. У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета БССР «Аб парадку ўвядзення Закона Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР» міністэрствам і ведамствам БССР, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў перайсці на працягу 3—5 гадоў з моманту ўступлення Закона ў сілу да прыняцця і публікацыі актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання, да вядзення справаводства і дакументацыі на беларускай мове, а пры неабходнасці—і на нацыянальнай мове большасці насельніцтва той ці іншай мясцовасці.

У гэтыя ж тэрміны Дзяржаўнаму камітэту БССР па друку па заказах міністэрстваў і ведамстваў БССР, выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый выканаць тэксты на пячатках, штампах, фармулярах, афіцыйных бланках на беларускай мове, а пры неабходнасці—на беларускай і рускай або іншай мове.

4. Галоўнаму архіўнаму ўпраўленню пры Савеце Міністраў БССР разам з Беларускім рэспубліканскім упраўленнем Дзяржстандарта СССР распрацаваць і па ўзгадненню з зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі БССР зацвердзіць метадычныя і інструктыўныя ўказанні да вядзення справаводства на беларускай мове, падрыхтаваць дапаможнік па справаводству на беларускай і рускай мовах (з паралельнымі тэкстамі) і сумесна з Дзяржаўным камітэтам БССР па друку выдаць яго неабходным тыражом з тым, каб забяспечыць ім усе дзяржаўныя ўстановы, грамадскія арганізацыі і прадпрыемствы.

**1990—1991 гады**

**5. Выканкомам Саветаў народных дэпутатаў, міністэрствам і ведамствам БССР забяспечыць афармленне тапанімічных назваў (населеных пунктаў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, вуліц, плошчаў, рэк і да т. п.), назваў устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама выданняў інфармацыйнага і рэкламнага характару на беларускай мове, а пры неабходнасці—на беларускай і рускай мовах.** Дзяржаўнаму камітэту БССР па эканоміцы і планаванню, Дзяржаўнаму камітэту БССР па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню выдзяляць для гэтых мэт неабходныя матэрыяльныя рэсурсы.

**З 1990 года**

**6. Міністэрствам і ведамствам БССР, прадпрыемствам і арганізацыям афармляць таварныя знакі, сродкі маркіроўкі тавараў, этыкеткі, інструкцыі аб карыстанні таварамі на беларускай мове, а для тавараў, прызначаных на вываз за межы Беларускай ССР,—на беларускай, рускай мове, або мове заказчыка.**

Дзяржаўнаму камітэту БССР па друку забяспечыць гэта патрабаванне пры размяшчэнні заказаў у падведамных арганізацыях. Міністэрству сувязі і інфарматыкі БССР арганізаваць выпуск марак, канвертаў, паштовак, бланкаў і г. д. з надпісамі на беларускай мове.

**1990—1993 гады**

7. Рэкамендаваць міністэрствам і ведамствам БССР, прадпрыемствам і ўстановам забяспечыць перавод на беларускую мову шматтыражных газет, рэдакцый радыёвяшчання прадпрыемстваў і аб'яднанняў. Сумесна з Дзяржаўным камітэтам БССР па друку, Дзяржаўным камітэтам БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню арганізоўваць старонкі мясцовых выданняў газет, а таксама радыё- і тэлеперадачы на мовах груп насельніцтва, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі.

**1990—1993 гады**

8. Лічыць мэтазгодным перавесці з рускай мовы выдання на беларускую раённыя і абласныя газеты, а таксама рэспубліканскія «Сельская газета», «Физкультурник Белоруссии», бюлетэнь «7 дней», часопіс «Сельское хозяйство Белоруссии» і іншыя галіновыя выданні.

9. Міністэрствам, ведамствам БССР, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў устанавіць кантроль за тым, каб кіраўнікі дзяржаўных натарыяльных кантор, органаў унутраных спраў, Дзяржарбітража, устаноў аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння, гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва, транспарту, сувязі, фінансаў, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, а таксама іншых устаноў, якія пастаянна працуюць з насельніцтвам, ажыццявілі ў вызначаныя тэрміны пераход дзейнасці сваіх калектываў на вядзенне спраў на беларускай мове і яе шырокае выкарыстанне ў зносінах з грамадзянамі або забяспечылі выкарыстанне іншых, прымальных для бакоў моў.

10. Мінскаму доследна-эксперыментальнаму заводу па рамонту і тэхнічнаму абслугоўванню вылічальнай тэхнікі сумесна з Дзяржаўным камітэтам БССР па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню прыняць неабходныя меры па пераабсталяванню пішучых машынак на беларускі шрыфт па заяўках міністэрстваў і ведамстваў БССР, выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый.

Міністэрствам і ведамствам БССР, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемствам, установам і арганізацыям вызначыць дадатковую патрэбнасць у пішучых машынках з беларускім шрыфтам, а таксама шрыфтам іншых моў, а Дзяржаўнаму камітэту БССР па эканоміцы і планаванню сумесна з Міністэрствам гандлю БССР, Белкаапсаюзам забяспечыць гэту патрэбнасць.

**1990—1993 гады**

11. Міністэрствам і ведамствам БССР, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў сумесна з Міністэрствам народнай адукацыі БССР арганізаваць пастаянныя курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы машыністак і стэнаграфістак для работы на беларускай мове.

Міністэрству народнай адукацыі БССР, Дзяржаўнаму камітэту БССР па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання арганізаваць у прафтэхвучылішчах і сярэдніх спецыяльных навучальных установах падрыхтоўку спецыялістаў па справаводству на беларускай мове ў адпаведнасці з заяўкамі арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў рэспублікі.

**1990—1993 гады**

12. Дзяржаўнаму камітэту БССР па статыстыцы і аналізу сумесна з Дзяржаўным камітэтам БССР па эканоміцы і планаванню, Міністэрствам фінансаў БССР, Дзяржаўным камітэтам БССР па друку, рэспубліканскім прамыслова-вытворчым аб'яднаннем «Саюзбланквыд» забяспечыць друкаванне на беларускай мове ў неабходнай колькасці бланкаў па ўліку і справаздачнасці, указанняў па іх запаўненню, а таксама па вядзенню рэспубліканскіх і саюзных класіфікатараў.

**1990—1991 гады**

## III. Выкарыстанне беларускай мовы, іншых нацыянальных моў у рабоце ўстаноў адукацыі і культуры

1. Міністэрству народнай адукацыі БССР, іншым міністэрствам і ведамствам БССР, якія маюць навучальныя ўстановы, улічваючы статус дзяржаўнасці беларускай мовы, забяспечыць паступовае пашырэнне сферы яе ўжывання ў навучальна-выхаваўчым працэсе. Дзеля гэтага сумесна з выканкомамі Саветаў народных дэпутатаў, адпаведнымі міністэрствамі і ведамствамі ўдасканаліць сістэму дашкольных устаноў, агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў з тым, каб забяспечыць у іх пераемнасць вывучэння беларускай мовы. Камплектаванне і адкрыццё беларускіх школ, класаў, усе выхаваўчыя акцыі ў напрамку пашыранага выкарыстання беларускай мовы праводзіць разам з саветамі навучальных устаноў, бацькоўскімі камітэтамі і грамадскасцю.

**1990—2000 гады**

2. Выканкомам Саветаў народных дэпутатаў сумесна з Міністэрствам народнай адукацыі БССР да 2000 года колькасць вучняў, якія вучацца на беларускай або іншай мове, прывесці ў адпаведнасць з нацыянальным саставам насельніцтва рэспублікі. У месцах кампактнага пражывання насельніцтва пэўнай нацыянальнасці стварыць неабходную сетку школ і класаў з вывучэннем мовы гэтай нацыянальнасці; пры наяўнасці адпаведных умоў пераводзіць на гэтыя мовы навучальна-выхаваўчы працэс з абавязковым вывучэннем беларускай, рускай і адной з замежных моў.

Міністэрству народнай адукацыі БССР у 1991—1995 гадах забяспечыць для гэтай мэты падрыхтоўку педагагічных кадраў і сумесна з Дзяржаўным камітэтам БССР па друку — выданне неабходнай колькасці вучэбна-метадычнай літаратуры, падручнікаў і дапаможнікаў.

**1991—2000 гады**

3. Міністэрству народнай адукацыі БССР, іншым міністэрствам і ведамствам БССР, якія маюць навучальныя ўстановы, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў з мэтай паступовага пераводу навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускую і іншыя мовы ў розных тыпах навучальных устаноў рэспублікі ў адпаведнасці з Законам БССР «Аб мовах у Беларускай ССР»:

удакладніць да 1 чэрвеня 1991 г. вучэбныя планы і праграмы ўсіх навучальных устаноў і прадугледзець у іх неабходную колькасць гадзін для вывучэння беларускай і іншых нацыянальных моў, а таксама замежных моў з тым, каб вучні і студэнты дасканала авалодалі імі;

уключыць пачынаючы з 1990/91 навучальнага года практычны курс беларускай мовы і літаратуры ў вучэбныя планы падрыхтоўчых аддзяленняў усіх вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі;

перавесці да 1996 года выкладанне ўсіх вучэбных прадметаў у педагагічных інстытутах, на педагагічных аддзяленнях універсітэтаў, у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах мастацтва і культуры, педагагічных вучылішчах на беларускую мову. У пераходны перыяд (2—3 гады) стварыць у гэтых навучальных установах беларускамоўныя групы (патокі); у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах іншага профілю забяспечыць выкладанне на беларускай мове вучэбных дысцыплін грамадска-палітычнага цыкла;

увесці ў 1990—1995 гадах у агульнаадукацыйных школах, прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах, педагагічных інстытутах і ва універсітэтах спецыяльныя курсы па краязнаўству, факультатывы па праблемах беларусазнаўства. Ва ўсіх вышэйшых навучальных установах забяспечыць вывучэнне курса гісторыі БССР.

З 1990/91 навучальнага года ў пералік абавязковых уступных экзаменаў у навучальных установах БССР уключыць экзамен па беларускай мове і літаратуры, а выпускных—у залежнасці ад тыпу і профілю навучальных устаноў;

пры педагагічных вышэйшых навучальных установах і універсітэтах стварыць школы юнага філолага; павялічыць колькасць сярэдніх школ і класаў з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры для развіцця здольнасцей і схільнасцей вучняў да гэтых прадметаў. Рэгулярна праводзіць алімпіяды па беларускай мове і літаратуры, іншых мовах і літаратурах, гісторыі і культуры Беларусі сярод вучняў агульнаадукацыйных школ, прафтэхвучылішчаў, навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў;

на працягу 1990—1995 гадоў штогод перападрыхтоўваць і павышаць кваліфікацыю па беларускай мове не менш чым 40 тыс. настаўнікаў, выкладчыкаў прафтэхвучылішчаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, а таксама работнікаў дашкольных і пазашкольных устаноў. У гэтым напрамку ажыццяўляць правядзенне навучальнага працэсу ў інстытутах удасканалення настаўнікаў, на факультэтах і курсах павышэння кваліфікацыі, у навучальных установах і іншых арганізацыях;

перавесці на працягу 1990—1995 гадоў большасць дашкольных устаноў у гарадской і сельскай мясцовасці на беларускую мову выхавання і навучання, ажыццявіць неабходныя меры па забеспячэнню моўнай пераемнасці ў дзейнасці дзіцячых дашкольных устаноў і школ;

у месцах кампактнага пражывання нацыянальных супольнасцей пры стварэнні адпаведных умоў адкрываць дашкольныя ўстановы або групы з выхаваннем дзяцей на іх нацыянальнай мове з абавязковым правядзеннем заняткаў на беларускай і рускай мовах.

**1990—2000 гады**

4. Міністэрству народнай адукацыі БССР распрацаваць у 1990 годзе парадак вывучэння беларускай мовы і літаратуры вучнямі, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі.

5. Міністэрству народнай адукацыі БССР, міністэрствам і ведамствам БССР, якія маюць навучальныя ўстановы, унесці да 1 чэрвеня 1991 г. у Савет Міністраў БССР прапановы па пераліку спецыяльнасцей і прафесій, па якіх будзе весціся навучанне ў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных установах на беларускай, рускай або іншай мове.

6. Міністэрству народнай адукацыі БССР, Міністэрству культуры БССР, выканкомам Саветаў народных дэпутатаў сумесна з творчымі саюзамі, іншымі грамадскімі арганізацыямі з мэтай паглыблення ведаў па беларускай мове і літаратуры, нацыянальнай культуры і гісторыі беларускага народа:

ствараць у навучальных і пазашкольных установах, установах культуры мастацкія самадзейныя калектывы, рэпертуар якіх будуецца на беларускім літаратурным, музычным і фальклорным матэрыяле, літаратурныя студыі (гасцёўні), гурткі па вывучэнню беларускай народнай творчасці, культуры, гісторыі і г. д.;

павялічыць сетку дзяржаўных, грамадскіх і школьных літаратурных, краязнаўчых, награфічных музеяў, а таксама музеяў вядомых дзеячаў беларускай культуры і культуры іншых народаў. Накіраваць намаганні студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, работнікаў дамоў культуры і бібліятэк рэспублікі на аказанне дапамогі ў стварэнні краязнаўчых гурткоў, музеяў, у зборы вуснапаэтычнай творчасці народа;

праводзіць рэспубліканскія тэлевізійныя фестывалі народнай музыкі, конкурсы самадзейных калектываў і асобных выканаўцаў на лепшае выкананне беларускай песні і эстрадных музычных твораў беларускіх аўтараў, святы фальклору, народнай музыкі і песні нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі.

7. Міністэрству культуры БССР сумесна з Саюзам тэатральных дзеячаў БССР павялічыць колькасць тэатраў, якія працуюць на беларускай мове. Практыкаваць увядзенне ў рэпертуар рускамоўных тэатраў пастановкі спектакляў, у тым ліку для дзяцей, на беларускай мове і мовах іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у Беларускай ССР.

**З 1991 года**

8. Міністэрству культуры БССР сумесна з Дзяржаўным камітэтам БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню, Саюзам кінематаграфістаў БССР забяспечыць стварэнне, дубліраванне і паказ мастацкіх і навукова-дакументальных фільмаў на беларускай мове.

**З 1991 года**

# Пра абнаўленне, «спецрэалізм» і іншае



**З дырэктарам Інстытута літаратуры АН БССР Віктарам КАВАЛЕНКАМ гутарыць наш карэспандэнт Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

**— Віктар Антонавіч, перш чым мы распачнём размову, *хацелася б адразу патлумачыцца:* вы цікавіце «ЛіМ» не толькі ў якасці дырэктара Інстытута літаратуры АН БССР. У адваротным выпадку наш дыялог мог бы ператварыцца ў своеасаблівую справаздачу пра тое, што здзейснена *падначаленай* вам установай за гады перабудовы. І ўсё ж першае пытанне менавіта пра інстытут: як адбываецца і ці адбываецца наогул вызваленне ад сацыялагічных і іншых стэрэатыпаў пры вывучэнні літаратурнага *працэсу?***

— Сапраўды, я згодзен з вамі, Галіна Анатольеўна, лепш пазбегнуць жанру справаздачы, бо ў такім жанры факты існуюць у нейкім халодным абмежаванні, без кантэксту агульнага палітычнага і духоўнага развіцця ў краіне і нібы страчваюць свае сутнасныя прыкметы. І ўсё ж хачу сказаць, што пэўныя заслугі перад новым часам калектыў інстытута, на мой погляд, мае. Вытокі гэтых заслуг — у дзейнасці калектыву пасля XX з'езда партыі, калі лепшыя яго супрацоўнікі актыўна ўдзельнічалі ў выпрацоўцы новых прынцыпаў літаратуразнаўства і крытыкі, якія разбуралі вульгарна-сацыялагічныя ацэнкі літаратурных з'яў. У той час узышла зорка А. Адамовіча як крытыка і даследчыка. Яго творчасць аказала вялікі ўплыў на ўздым усёй беларускай крытыкі і літаратуры. Ён вёў за сабой усіх, хто хацеў ісці за ім. У выніку перадавая частка калектыву набыла даволі значны патэнцыял навукова-літаратурнага мыслення, што дазволіла ў пазнейшы час, у застойныя гады аказваць адчувальнае супраціўленне прыгнятальным кампаніям і ўстаноўкам, накіраваным на абмежаванне прынцыпу праўдзівасці ў мастацтве. Яшчэ ў сярэдзіне 60-х гадоў у інстытуце быў падрыхтаваны нарыс творчасці А. Гаруна для «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры», але ён не ўвайшоў у выданне па прычыне ад нас не залежнай.

Асцерагаючыся самапахвальбы, усё ж асмелюся заўважыць, што лепшыя супрацоўнікі інстытута і ў тыя неспрыяльныя для літаратуры і навукі гады імкнуліся не здраджваць эстэтыцы рэалізму. Вядучыя супрацоўнікі інстытута пастаянна крытыкаваліся з пазіцый тагачаснай афіцыйнай ідэалогіі. Таму і сёння, на маю думку, сваімі лепшымі сіламі ён здатны ўспрымаць перабудову ў яе *самых моцных наватарскіх патэнцыях* і адгукацца на яе запатрабаванні шчырай творчай аддачай. Пра гэта сведчаць некаторыя нашы публікацыі (артыкулы М. Мушынскага, У. Казберука, С. Букчына), а таксама выступленні і даклады А. Мальдзіса, М. Мушынскага, А. Яскевіча, М. Арочкі, М. Тычыны, Т. Чабан, Т. Грамадчанкі на пленумах і сходах Саюза пісьменнікаў, дзе яны здолелі прыцягнуць увагу патрабавальнай літаратурнай публікі аналітычна-доказным і абнаўленча - перабудовачн ы м зместам і пафасам свайго прамоўніцкага слова. Пры самым непасрэдным удзеле супрацоўнікаў інстытута вернута ў літаратуру імя А. Гаруна (асаблівая заслуга ў гэтым У. Казберука), адбылася палітычная рэабілітацыя асобы Цішкі Гартнага.

Надаючы адпаведнае грамадскае значэнне больш шырокаму вывучэнню культурнай спадчыны, мы напярэдадні ўрачыстасцей, прысвечаных 500-годдзю з дня нараджэння Ф. Скарыны, у цэлым паспяхова завяршылі Скарынінскую навуковую праграму, падрыхтавалі да выдання шасцітомны «Біябібліяграфічны слоўнік беларускіх пісьменнікаў» (кіраўнік А. Мальдзіс), выдадзены зборы твораў або аднатомнікі М. Гарэцкага, Я. Нёманскага, Б. Мікуліча і іншых пісьменнікаў. Распрацоўваюцца тэмы «Літаратура і сучасныя праблемы духоўнага фарміравання грамадства і асобы» (кіраўнік У. Гніламёдаў), «Мастацкія традыцыі і пераасэнсаванне вопыту беларускай савецкай літаратуры 20—30-х гадоў» (кіраўнік І. Навуменка), «Пытанні экалогіі, экалагічнага выхавання і сучасная беларуская літаратура» (кіраўнік П. Дзюбайла). Ствараецца альтэрнатыўная праграма па беларускай літаратуры для сярэдняй школы.

**— Часам даводзіцца чуць скаргі літаратуразнаўцаў, што яны літаральна задушаны планавымі тэмамі. Два разы на год у інстытуце аўрал, амаль як на вытворчасці ў канцы квартала. На «чыстую» літаратурную крытыку не застаецца ні часу, ні сіл...**

— Сапраўды, мы сядзім на двух крэслах. Але ж асноўная наша праца ўсё ж у інстытуце. Задач шмат, а калектыў інстытута малалікі. Наперадзе напісанне новай «Гісторыі беларускай літаратуры», у якой будзе разглядацца таксама зарубежная эміграцкая літаратура і крытыка, будуць змешчаны асобныя раздзелы пра творчасць Н. Арсеньевай і М. Сяднёва, якія жывуць у Амерыцы. Маштаб вырашэння праблем, звязаных з напісаннем новай «Гісторыі...», скажу шчыра, моцна азадачвае нас і нават палохае. Нам неабходна будзе не толькі ўвесці ў літаратуру новыя імёны і творы, не толькі інакш ацаніць многія з'явы і факты, хоць і гэта нялёгка. Нам давядзецца пераасэнсоўваць існуючую ідэйную канцэпцыю гісторыі.

Але зробленае — я ўсяго, вядома, не згадаў — не дае нам права паддавацца ілюзіі, што перабудова ў інстытуце разгортваецца як належыць. Перспектыўныя планы інстытута — і тыя, што ўжо сфармуляваны і зафіксаваны на паперы, і тыя, што яшчэ існуюць у якасці меркаванняў і прыкідак, — патрабуюць больш глыбокага асэнсавання ў духу новага часу і больш зацікаўленай, больш натхнёнай рэалізацыі. Пакуль жа ў нас выходзяць і кнігі павярхоўна-апісальныя, натужна-вымучаныя, без канцэптуальнага разумення зместу мастацкіх твораў. Нам бракуе смелых маштабных ініцыятыў. У ідэале калектыў навуковай установы павінен быць згуртаваннем аднадумцаў. Але ў нас працуюць і людзі, якія віталі ўвядзенне савецкага войска ў Чэхаславакію і Афганістан. Мы памятаем, што без асаблівага пратэсту калектыву і нават з яго палахлівай згоды былі ў свой час звольнены з інстытута за іншадумства М. Прашковіч і В. Зайцаў, многія погляды якіх сёння рэалізуюцца ў жыцці. Вядома, ніхто не патрабуе — і нявартa патрабаваць — публічнага пакаяння, але, несумненна, пройдзе пэўны час, пакуль у нашых душах адбудзецца маральная рэвалюцыя з балюча-пакутлівым перажываннем сораму і віны. Хто няздатны на такі глыбінны асабісты катарсіс, таго сам час адлучыць ад яго прафесіі.

**— У пачатку 80-х гадоў, г. зн. нядаўна, сіламі навукоўцаў выдадзены тры даследаванні па сацрэалізму. Ёсць усе падставы падазраваць, што кнігі гэтыя састарэлі, так сказаць, «у пялюшках». Як вы асабіста ставіцеся да «самага перадавога метаду» (калі, вядома, можна сказаць пра тое ў межах гаворкі)? Адзін з рускіх даследчыкаў на старонках «Новага мира» назваў, помніцца, сацыялістычны рэалізм «*крошкой* Цахес, які патануў ва ўласным гаршку...»**

— Дазвольце пачаць з «крошкі Цахеса». Лічу: выраз не толькі вобразна хлёсткі, з'едлівы, але і сэнсава дакладны. Для ўсіх нас сёння вельмі важна ўсвядоміць, што «крошка Цахес» усё ж быў. Бо што азначае «сацыялістычны рэалізм» на простай мове? Ён азначае празмерную ідэалагізацыю і палітызацыю мастацтва. Сама па сабе з'ява палітызацыі вядома гісторыі духоўнай культуры з часоў старажытных Грэцыі і Рыма і яе можна лічыць натуральнай спадарожніцай развіцця мастацтва. Але ўспышкі рэзкай ідэалагічнай запраграмаванасці літаратуры выклікаліся толькі пэўнымі перыядамі грамадскай барацьбы і былі кароткачасовымі. Несумненна, што палітызацыя мастацтва напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі і ў першыя гады яе трыумфу стала непазбежным і нават неабходным фактарам пераўтварэння сістэмы эстэтычных уяўленняў у сувязі са зменанымі ўмовамі жыцця. Велізарнай памылкай, аднак, сталінскіх ідэалагічных органаў аказалася лагічнае для іх жаданне надаць ёй пастаянную функцыю, зрабіць усеагульнай нормай. А гэта аказалася самым сапраўдным гвалтам над мастацтвам, бо ўспышка палітызацыі пры натуральных адносінах літаратуры да жыцця сама ўзнікае і сама прытухае. Вядома, і ў «спакойныя» перыяды сапраўдная мастацкая творчасць не можа аставацца абыякавай да палітычных інтарэсаў грамадства, але ў развітых літаратурах гэтыя інтарэсы знаходзяць сваё адлюстраванне ў спецыфічным жанры палітычнага рамана ці аповесці.

Татальная палітызацыя мастацтва аказалася надзвычай выгаднай сталінскай сістэме ўлады ў якасці закамуфляванага сродку падаўлення сумленнага і аналітычна-рэалістычнага зместу ў літаратуры і мастацтве.

Сам тэрмін «сацыялістычны рэалізм» вельмі няўдалы і супярэчлівы па сэнсу: у адно спалучаны палітычнае азначэнне «сацыялістычны» і эстэтычная катэгорыя «рэалізм». Але не ў гэтым яшчэ вялікая бяда, а ў той ролі, якую выконвала гэтае спалучэнне. Азначэнне *«сацыялістычны» прыстаўлена да паняцця* «рэалізм» не каб ўзмацніць гэтае паняцце, а каб размыць яго ўжо звыклы і ўстойлівы змест. Сапраўдны рэалізм кіруючым органам сталінскага рэжыму аказаўся непатрэбным і небяспечным. Па тыпу: гаварылася і пісалася не проста «культура», а «сацыялістычная культура», не проста «права», а «савецкае права». Фармальна як быццам мелася на ўвазе, што і культура і права ў Савецкай краіне павінны быць вышэй за такія ж буржуазныя інстытуты. Аднак на практыцы аказалася інакш. Гаварылася «сацыялістычная культура» — і адмаўлялася ўся культура мінулага, гаварылася «савецкае права» — і дапускалася страшэннае парушэнне прававых нормаў, выпрацаваных цывілізаваным светам. Так і з «сацыялістычным рэалізмам»: з цягам часу ён стаў сінонімам самага бессаромнага ганьбавання рэалізму, сінонімам лакіроўкі і ідыліі.

Гэтае паняцце пачало, на жаль, паступова выконваць нейкую нібы рытуальную, ледзь не малітоўную функцыю. Калі часцей яго паўтараць як закліnanne, менш будзе падазронасці да тваёй асобы. Нездарма вызначальным момантам у рашэнні партыйных органаў, выключаць ці не выключаць В. Зайцава з членаў партыі і з ліку супрацоўнікаў інстытута, быў яго адказ на неаднаразова зададзенае яму пытанне: «Прызнаяце вы сацыялістычны рэалізм ці не прызнаяце?» (Гэта, як некалі, гучала: «Прызнаеш Бога ці не прызнаеш?»). Ён не прызнаў. Таму з поўнай падставай «сацрэалізм» можна назваць, я так думаю, «спецрэалізмам», бо ён сапраўды выконваў спецпрызначэнне, як «спецчасці», як «спецфарміраванні» і іншыя органы таталітарнай сістэмы ўлады.

Тэрмін «сацыялістычны рэалізм» не мог быць колькі-небудзь плённым як метад у дачыненні да мастацкай творчасці яшчэ і таму, што ў самім яго вызначэнні была закладзена неабходнасць цэнзуры, нагляду. Вызначэнне метаду рэалізму як метаду з палітычным прадпісаннем яго выяўлення (сацыялістычная арыентацыя і рэвалюцыйны падыход у адлюстраванні жыцця) правакавала ажыўленне пільнасці і праверкі — спачатку ахвочай, а пасля і абавязковай, маштабнай, усеагульнай.

**— Цяпер, натуральна, узнікае пытанне, як магла жыць літаратура і крытычная думка пад цяжарам такой злавеснай «тэарэтычнай» абстракцыі?**

— Па-першае, над пераважнай большасцю літаратараў мела вялікую ўладу ілюзія, быццам сам тэрмін з'яўляецца прымальным, але вось толькі ў практыцы карыстання ёсць выдаткі. Маўляў, справа не ў тэрміне, не ў самім метадзе, а ў тых ідэолагах, якія насаджаюць нарматыўнасць у галіне творчасці. Па-другое, рытуальная функцыя тэрміна пакідала надзею, што, схаваўшыся за публічную дэкламацыю вернасці сацыялістычнаму рэалізму, можна смялей ісці за праўдай жыцця і тварыць сапраўднае мастацтва. Гэтая акалічнасць і прыводзіла да такой сітуацыі, калі *пад адным дахам гэтага* метаду стараліся ўмясціць творы супрацьлеглых ідэйна-эстэтычных схільнасцяў, як, напрыклад, раманы «Кавалер Залатой Зоркі» С. Бабаеўскага і «Ціхі Дон» М. Шолахава, раманы І. Гурскага і аповесці В. Быкава. З такой сітуацыяй вымушаны былі мірыцца ў нейкай меры і афіцыйныя органы. Аднак праравацца бескампрамісна-праўдзіваму мастацкаму твору праз загародкі адзінаўладнага метаду да дзяржаўнага прызнання можна толькі дзякуючы рэдкаму збегу шчаслівых выпадковасцяў.

А цяпер адносна трох кніг пра сацыялістычны рэалізм, напісаных у Інстытуце літаратуры. Перш-наперш я хачу сказаць, што ў той час я не меў непасрэдных адносін да планавання інстытуцкай дзейнасці. Але гэта не азначае, што я павінен крытычна ставіцца да гэтых кніг. Яны называюцца «Нараджэнне новага мастацтва», «Паэзія абнаўлення свету» і «Магчымасці рэалізму».

**— Назвы гавораць самі за сябе...**

— Справа не ў назвах. Змест пераконвае, што кнігі напісаны не зусім «пра сацрэалізм». У іх фактычна даследуецца не праблема метаду, а спеласць гістарычнага прынцыпу ў беларускай літаратуры, працэс фарміравання рэалістычнай вобразнасці, характар яе наватарства. Ва ўсіх трох кнігах ёсць цікавыя фактаЛагічныя назіранні, актуальныя і для новага часу тэарэтычныя высновы і абагульненні. Таму я не сцвярджаў бы, што гэтыя кнігі састарэлі адразу і поўнасцю. Вядома, не будзем адмаўляць: нешта сапраўды састарэла, нешта патрабуе іншага падыходу і асвятлення.

У цэлым жа згаданыя даследаванні, асабліва ў канкрэтным аналізе, захоўваюць, на мой погляд, сваю станоўчую якасць і навуковую актуальнасць. Тым больш, што аўтары ў пераважнай сваёй большасці вядомыя ў рэспубліцы вучоныя і крытыкі, якія ні да гэтага, ні пасля кан'юнктуршчынай не грашылі. Якраз наадварот.

**— Віктар Антонавіч, зараз сілы інстытута кінуты на вывучэнне беларуска-рускіх узаемасувязей. Ці не было пэўнай зададзенасці ў выбары і фармулёўцы гэтай тэмы?**

— Па маім адчуванні, — не, не было. Ніхто нам ніякіх дырэктыў — ні вусных, ні пісьмовых — не спускаў, ніхто парад па гэтым пытанні не даваў, ніякіх намёкаў ніадкуль не паступала. «Патрафіць» жа ва ўнісон нейчаму ідэалагічнаму чаканню таксама не было патрэбы, бо мы не ведалі, ці ёсць такі адрасат наогул, які адобрыў бы выбраны намі праблемны план даследавання. Ведалі толькі, што ў Інстытуце літаратуры імя Т. Шаўчэнкі падрыхтавана «Гісторыя ўкраінска-рускіх літаратурных сувязей», цяпер яна выдадзена. Кіраваліся актуальнасцю тэмы. Такое даследаванне патрэбна хоць бы па той прычыне, што пасля 1956 года, калі выйшла ў многім недасканалая, павярхоўна пафасная, беднаватая на факты кніга М. Клімковіча пра беларуска-рускія літаратурныя сувязі, асобнага абагульненага даследавання ў нас у рэспубліцы не было, хоць пра сувязі пісалі шмат. Да таго ж, усё пазнаецца ў параўнанні. Для беларускай літаратуры асабліва пажаданым фонам для параўнання з'яўляюцца руская, польская і ўкраінская літаратуры, бо яны блізкія па духу і мове і маюць агульныя гістарычныя ўмовы сужыцця.

З гэтай навуковай задачай непасрэдна звязана ідэалагічная накіраванасць даследавання. *Тым, хто сёння выступае за* ізаляцыяніскі шлях развіцця беларускай культуры, мы імкнёмся на канкрэтных фактах паказаць, што высокаразвітая дэмакратычная літаратура іншага народа не можа адціснуць на задні план гістарычна слабей развітую нацыянальную культуру, бо толькі афіцыёзная культура

(Працяг на стар. 6—7).

# «НАША СЛОВА» — ваш сябар і дарадчык

Сярод шматлікіх перыядычных выданняў, якія з'явіліся апошнімі часамі ў рэспубліцы, «Наша слова» — адно з нямногіх, што выдаецца на роднай мове. Ды інакш і быць не можа, бо прызначэнне яго — абарона правоў нашае мовы, яе папулярызацыя, згуртаванне актывістаў, усіх творчых сілаў Таварыства беларускае мовы імя Францішка Скарыны. Бюлетэнь выходзіць з сёлетняга сакавіка і за гэтыя колькі месяцаў набыў шмат прыхільнікаў і шчырых сяброў.

Густоўнае мастацкае афармленне і двухколерны друк надаюць кожнаму нумару святочны выгляд. Першая старонка сустракае чытача дарагімі для сведамага беларуса абліччамі — Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, Ф. Багушэвіча, К. Чорнага, У. Дубоўкі — змагароў і пакутнікаў за родную мову.

Традыцыйныя рубрыкі «Нашага слова» — «Закону аб мовах — жыць і дзейнічаць», «З нататніка мовазнаўцы», «Пра нас і нашу мову», «Зямлі бацькоў — не анямець». Шмат цікавых і змястоўных публікацый таксама ў рубрыках «Трыбуна дэпутата», «Культура мовы», «Гартаючы старыя выданні».

Вы, шаноўныя чытачы, і самі можаце далучыцца да стварэння «Нашага слова», бо, як вядома, зваротная сувязь шмат у чым вызначае характар любога выдання. Дасылайце ў рэдакцыю допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.

Але сёння, у часе падпіснай кампаніі, найперш трэба паклапаціцца пра падпіску. Бюлетэнь ужо ўключаны ў Каталог перыядычных выданняў, ягоны індэкс 74975. Выпісаць «Наша слова» можна ў арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Падпіска на год каштуе 2 руб. 40 кап. — як на сённяшнюю дарагоўлю даволі танна.

У прыхільніках «Літаратуры і мастацтва» мы бачым патэнцыйных чытачоў «Нашага слова», таму й звяртаемся да Вас: выпісвайце самі і заахвочвайце сваіх сяброў і знаёмых выпісваць наша выданне.

«Наша слова» мусіць быць у кожнай школе, у кожнай хаце, у кожнай сям'і, дзе жыве ці адраджаецца Беларускі Дух!

**Зміцер САНЬКО, сябар Рэспубліканскай рады ТБМ.**

## І ПАЛЯЎНІЧЫМ, І РЫБАЛОВАМ

**З красавіка 1927 па красавік 1933 года кааператыўна-прамысловы Саюз паляўнічых БССР выдаваў у Мінску штомесячна часопіс «Паляўнічы Беларусі».**

**Чаму б не прадоўжыць традыцыю? — вырашылі сёлета ў Беларускім таварыстве паляўнічых і рыбаловаў. І вось у кіёсках «Саюздруку» з'явіўся першы нумар газеты «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі». З рэдакцыйнай калонкі «У добры час!» вынікае, што выданне ставіць перад сабой самыя шырокія задачы. Традыцыйнымі будуць рубрыкі «Паляўнічая гаспадарка», «Рыбная справа», «З замежнага вопыту» і іншыя.**

**У першым нумары газеты адкрыўся і «Салон літаратурных сустрэч». У ім — знаёмства з вершамі В. Шніпа і Л. Рублеўскай, эцюдамі фотааматараў.**

**«Паляўнічы і рыбалоў Беларусі» будзе выходзіць два разы на месяц. На наступны год газету можна выпісаць. Індэкс — 64109.**

*Спрэчкі, палеміка*

**На канферэнцыі Беларускага народнага фронту «Незалежнасць Беларусі» адзін з прамоўцаў заявіў, маўляў мы, случакі, не можам стаць поруч з усімі пад бела-чырвона-белы сцяг, бо полацкія дружыны пад ім у далёкім мінулым нанеслі нам вялікія страты. І вось нядаўна ў «Звяздзе» (2 верасня 1990 года) давялося прачытаць артыкул «Граф з вёскі Калацічы», дзе зноў жа, са спасылкай на гістарычныя крыўды, аўтар супрацьстаўляе случакоў палачанам сённяшнім. Абодва выступленні — вуснае і пісьмовае — належаць вядомаму краязнаўцу са Слуцка Рыгору Родчанку, які неаднойчы праніклёна пісаў пра мінуўшчыну сваіх мясцінаў, выступаў у абарону роднай мовы, помнікаў матэрыяльнай культуры роднае зямлі.**

# „Шматковая" Беларусь

Не буду па памяці цытаваць колішняе выступленне Р. Родчанкі. Але ў газетным артыкуле слуцкі краязнавец дапускае некалькі істотных памылак і гэта акалічнасць не можа застацца без увагі. Р. Родчанка піша: «...на мой погляд, паўночна-ўсходні дыялект усё яшчэ мае перавагу ў беларускай літаратуры, але і наш дрыгавіцкі (паўднёва-заходні) дыялект ужо набірае сілу. І мы, случчане, верым у тое, што ў хуткім часе наш паўднёва-заходні дыялект зойме тое месца ў беларускай літаратуры, якое яму належыць па праву роўнасці і справядлівасці.

Калі гэта будзе? А будзе гэта тады, калі творчасць Альгерда Абуховіча будзе ўключана ў школьныя праграмы».

Р. Родчанка, падобна, ў немалой ступені перабольшвае, калі піша пра засілле «паўночна-ўсходняга дыялекту». Філолагі і дыялектолагі могуць больш дакладна вызначыць тыя крыніцы, з якіх чэрпала моц беларуская літаратурная мова. Ды і пра дыялекты ў беларускай літаратуры пісалася нямала, паўтарацца няварта. Зрэшты, такі дасведчаны чалавек, як Рыгор Родчанка, не ведаць усяго гэтага не можа. Таксама ж ён не можа не ведаць, што фарміраванне літаратурнай мовы народа адбываецца не па жаданні носьбітаў нейкага дыялекту або пэўнай культуры і не пад уплывам творчасці таго або іншага літаратара, нават не ў выніку гвалтоўнага «засілля» нейкай дыялектычна-культурнай групы. Моўныя працэсы праходзяць у рэчышчы гістарычнага развіцця. Яны падуладныя аб'ектыўным тэндэнцыям, але ж ніяк не суб'ектыўнаму жаданню асобнага чалавека ці групы людзей. Ніхто, відаць, не прыгадае, каб нехта з носьбітаў «паўночна-ўсходняга дыялекту» патрабаваў замацавання сваіх гаворак у творах беларускіх літаратараў.

Далей Р. Родчанка ў сваім артыкуле піша: «...мы не павінны слепа падпяваць прапагандыстам культуры паўночна-ўсходняй Беларусі».

Гэты ўрок заключаецца і ў тым, каб не станавіцца нам. жыхарам паўднёва-заходняй Беларусі, пад бела-чырвона-белы крывіцкі сцяг, які лідэры БНФ выдаюць за беларускі нацыянальны сцяг. Нам, жыхарам паўднёва-заходняй Беларусі, сорамна і ганебна лічыць бела-чырвона-белы крывіцкі сцяг сваім нацыянальным сцягам таму, што пад гэтым сцягам некалькі стагоддзяў назад полацкая дзяржава нападала на гарады і вёскі паўднёва-заходняй Беларусі і спальвала, і

# Пра абнаўленне, «спецрэалізм» і іншае

(Пачатак на стар. 5).

імперскіх дзяржаў валодае агрэсіўнай патэнцыяй падаўлення духоўнага жыцця меншых народаў. Мастацтва ж дэмакратычнае — ахоўнік усяго самастойна выяўленага і арыгінальна жывога ў культуры прыгнечаных народаў, бо само ўсведамленне нацыянальнай свабоды вырастае з дэмакратычнай ідэі роўнасці ўсіх. З другога боку, мы імкнёмся жывымі прыкладамі пацвердзіць ісціну, якая не ўсвоена яшчэ многімі афіцыйнымі асобамі і артадаксальнымі коламі грамадства, што самае яркае, бурнае і поўнае развіццё нацыянальнай самасвядомасці не вядзе да нацыяналістычнага светапогляду, што нацыяналізм параджаецца вузкім, дэфармаваным і адлучаным ад гуманістычных традыцый свету нацыянальным пачуццём. Нам хочацца таксама, каб у падтэксце нашага даследавання прысутнічала ідэя, даказаная ўжо самім ходам гістарычнага развіцця,але пацвярджаць якую карысна і сёння, што ўзровень духоўнага жыцця беларускага народа дае яму неаспрэчнае права на поўную суверэннасць у садружнасці народаў свету.

**— Пра што ці пра каго вы марыце напісаць як крытык і літаратуразнаўца?**

— Жаданняў і намераў шмат, але магчымасці цяпер, на жаль, невялікія. Хацелася б напісаць аб сучаснай літаратурнай сітуацыі ў рэспубліцы, пра новыя з'явы ў беларускай «ваеннай» прозе, перш за ўсё, звязаныя з творамі В. Быкава, В. Адамчыка, І. Чыгрынава. Даўно мару падступіцца да паэзіі апошніх гадоў П. Панчанкі, паспрабаваць хоць збольшага зразумець феномен паэзіі Р. Барадуліна, паразважаць аб актуальнасці для новага часу сацыяльнай ідэі п'есы К. Крапівы «Брама неўміручасці». Дужа цікавіць мяне і літаратурнае жыццё 1917 — 1920 гадоў, калі пісьменніцкая дзейнасць у час найвялікшых народных выпрабаванняў нярэдка засяроджвалася на важных практычных праблемах нацыянальнага быцця.

**— У названы вамі перыяд адбылося шмат падзей вялікага гістарычнага значэння, якія непасрэдна закранулі жыццёвы і творчы лёс многіх беларускіх пісьменнікаў. Гэта Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі, І Устаноўчы сход беларускіх арганізацый, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі Беларускай Народнай Радай, утварэнне БССР. Значэнне некаторых з гэтых падзей для будучыні беларускага народа востра абмяркоўваецца ў друку, прычым часта з супрацьлеглых пазіцый. Якія вашы адносіны да гэтых спрэчак і дыскусій?**

— Найвастрэй, бадай, абмяркоўваецца палітычнае значэнне абвяшчэння незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 года. На мой погляд, гэтая акцыя аказалася вельмі значнага палітычнага маштабу, аднак яна дагэтуль не асвятляецца з дастатковай навуковай аб'ектыўнасцю. Публікацыям, якія належаць літаратарам, блізкім да нефармальных арганізацый, часта, як мне здаецца, бракуе шматаспектнасці. Тым больш аднабаковай з'яўляецца афіцыйная пазіцыя, у якой вельмі непрыхавана выяўляецца імкненне захаваць старыя схемы ацэнкі гэтай гістарычнай падзеі.

Ніколі і нікому не ўдасца праігнараваць факт, што абвяшчэнне незалежнасці Беларусі ўпершыню адбылося 25 сакавіка 1918 г. А раз гэта так, то нельга не прызнаць, што яно было важнай вяхой у палітычным развіцці Беларусі.

Абвінавачванне дзеячаў, якія маюць адносіны да акта 25 сакавіка, у пагалоўным варожым стаўленні да Савецкай улады галаслоўнае. Акт гэты адбыўся, калі Чырвоная Армія стаяла за ракой Бярэзінай. І патрабаваць ад гэтых дзеячаў прарочай прадбачлівасці, што чырвоныя палкі хутка зноў пойдуць на захад і вызваляць Мінск, прынамсі, наіўна. Імі была зроблена правамерная ва ўмовах таго моманту спроба захаваць і развіць тое, што ўжо было створана і заваявана беларускім народам у працэсе свайго папярэдняга палітычнага і духоўнага развіцця. Гэтае распаўсюджанае адчуванне таго часу хвалююча апаэтызавана Я. Купалам у вершы «Спадчына», напісаным у тым жа 1918 г.

Не з'яўляецца вельмі ўжо кампраметуючым фактам, на мой погляд, і тое, што дзеячы беларускага дзяржаўнага адраджэння паслалі дабрапажаданую па змесце тэлеграму кайзеру Вільгельму. Сітуацыя патрабавала ад іх дыпламатычнай актыўнасці, а ў дыпламатыі, як вядома, свае ўстаноўкі і правілы, якія часам не выключаюць і скрытых намераў пад прыкрыццём афіцыйных заяў. Прынамсі, выстаўляць БНР прыхільніцай нямецкай акупацыі абсурдна.

Непераканаўчыя, па маім меркаванні, і сцвярджэнні, што абвяшчэнне незалежнасці ва ўмовах нямецкай акупацыі пазбаўляла гэтую акцыю рэальнай палітычнай перспектывы. Але ж незалежнасць Літвы таксама была абвешчана ва ўмовах той жа нямецкай акупацыі, аднак яе суверэнітэт хутка быў рэалізаваны практычна.

Адным словам, боязь гістарычнай праўды яшчэ не знікла. Мабыць, па гэтай прычыне далёка не ўсе архіўныя дакументы перыяду грамадзянскай вайны ў Беларусі апублікаваны і, відаць па ўсім, наўрад ці ў хуткім часе будуць апублікаваны. Усе афіцыйныя публікацыі ў рэспубліканскім друку пра дзейнасць БНР не гэтак даказваюць ацэнкі, колькі ўнушаюць іх пры шырокім выкарыстанні аднабаковага адбору, замоўчвання і спрошчаных паралеляў. І вельмі шкада, што адну з такіх публікацый падпісаў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР І. Навуменка, асвяціўшы гэтым самым далёка не навуковыя вывады і сцвярджэнні.

Выходзіць, што да навуковага перапазнання сваёй гісторыі, на вялікі жаль, мы яшчэ не зусім гатовы.

**— За апошнія гады вы я дырэктар мелі нямала непрыемнасцей з-за грамадскай актыўнасці многіх супрацоўнікаў Інстытута літаратуры. Мусіць жа, адстойваць іх перад дырэктыўнымі органамі было няпроста?**

— Баюся, Галіна Анатольеўна, што чуткі пра мае непрыемнасці моцна перабольшаныя. Таму дазвольце адно істотнае, як мне здаецца, удакладненне. Не было такога рэзкага супрацьстаяння: з аднаго боку — дырэктыўныя, як вы кажаце, органы, а з другога — дырэкцыя і калектыў інстытута. Сёння сам час вучыць нас быць стрыманымі і гатовымі да ўзаемаразумення. Аднак ваша пытанне не беспадстаўнае: перадумовы нейкага канфлікту выспявалі. Прычына ў тым, што прадстаўнікі некаторых партыйных камітэтаў і ў новых умовах працяглы час хацелі дзейнічаць у ідэалагічнай сферы старымі метадамі забароны і вокрыку. Іх палохала ўзросшая палітычная актыўнасць моладзі ў першыя гады перабудовы, а як увайсці з ёю ў кантакт, яны, звыклыя да безагаворачнага паслушэнства, не ведалі. Мы імкнуліся пераканаць іх, што творчы работнік павінен удзельнічаць у палітычным жыцці, павінен мець, каб быць сапраўдным прафесіяналам у сваёй галіне, свой, самім ім выпашаны і практычна выпрабаваны светапогляд, што мы не можам накіроўваць навуковую моладзь толькі на тое, каб яна ела, спала і пільна чытала выключна літаратуразнаўчыя кнігі. З другога боку і да нашай моладзі ў нас былі сур'ёзныя прэтэнзіі, мы не

Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА



## Але ўжо

Маладыя кавалеры
ціха ладзяць інструменты —
скрыпкі, флейты і сякеры,
косы, пікі і багнэты.
Шчэ манкуртаў да халеры.
Спяць ізгоі, інсургенты.
Шчэ няма ні ў кога веры.
Шчэ далёка да відна...

Але ўжо ў начной прасторы,
бледным месяцам затканай,
стукаціць, імчыць палянай
прывід волі — конь буланы.
Да душы даходзіць чутка,
незалежнасці пабудка.
Хутка, хутка, хутка, хутка...
Хутка буду я адна.

Ды са мною Матка Боска.
Абмініце дом наш, хлусы.
Калі толькі на імгненне
не заснём апошні раз, -
за табою пойдзе войска
незалежнай Беларусі.
Выйграць, выйграць, выйграць мусім.
А інакш не будзе нас.

Ноч стагодняя мінула.
Сонца межы адамкнула.
З трэскам, грукатам і гулам
час паплыў, бы ў мора лёд.
Ты выходзіш на змаганне
у засмужанае ранне.
За табой вясны дыханне,
наш абуджаны народ.

## Балада

Думаў Боженька, думаў,
звесіўшы ногі з хмаркі,
потым замкнуліся ўдвух
з Пазняком Зянонам
ды ў вялікім сакрэце
рaдзіліся без чаркі,
з неба Пазняк спусціўся
стрымана-задумёным.

Пыталіся у Зянона
і той і той з экстрэмістаў:
можа, Бог справядлівы
зробіць, каб нам было лепей?
Можа, знікне Чарнобыль,
наш край адродзіцца чыстым
ці акіян знянацку
перавядзе пад Лепель?
Толькі Пазняк языком
надарэмна не ляскаў.
Распарадзіўся ўзяць
у камуналцы падводу
ды паехаў дасвеццем
да вясковага плоту,
ды знайшоў Матку Боску
у хаціне сялянскай.

Кажа:
Будзь пахвалёна
і хвала Сыну Богу!
У Вострай Браме ўзышла
і сходзіла ў Жырову!
Як цяляты шукаем
да збаўлення дарогу.
Заступніца Беларусі,
ратуй нашу мову!

Тут утвараюцца цуды,
з'яўляюцца белыя коні
і Пазняк з мячом Чарадзея...
А Матачка Боска
бел-чырвона-белай істужкай
залатыя ўпрыгожвае скроні,
Езусу апавядае
пра беларускае войска.

## Выбар

Лёс краю і твой закляты.
Не дапаможа бронь.
Выйдзі, хлапчына, з хаты...
Я смерць, пацалую ў скронь.

Не рвіся, падумай добра,
ды не хавайся за печ.
Я роднага краю доля,
дам табе ў рукі меч.

Аднойчы і назаўсёды
на ўдачу і на няўдачу
каханка твая — свабода —
я табе здраджу...

●

Хацела б ужо памерці
з несправядлівага болю,
напеўшыся горкіх песень,
нібы парапёлка ў жыце.
Хацела, каб вы мелі сілу
абодва, Алесь і Віця,
занесці мяне з няволі
у спрадвечную волю.

Хацела, каб вы сабралі
мае вясковыя словы
у сціплы польны снапок,
звязаўшы ссівелай ніткай.
З дужаю рускаю моваю
ты мо ўтрымаешся, Віктар.
Цябе ж, Алесь, даканае
тутэйшы свет бесталковы.

Як з-пад бязлiкасці прэса
вылезлі вы, задзіры!
На вашу непрычасанасць
паказваюць пальцамі збоку.
Я вас абодвух паклічу
на мове нашай Радзімы,
дзе ўсіх нарэшце сагрэе
цемры халоднае вока.

●

Людзі, узнятыя сілаю звыш,
сыдуцца разам з расстайных дарог
кожны ў свой дол, кожны ў свой бок,
пад адзінокі, але адзін Крыж.

Прагнем на момант сагрэцца душой
тут, між няпраўды і цеснаты,
між дзвюх святыняў, між двух крыжоў,
між двух агнёў — то народы-браты.

Сябра адзіны, зацята маўчыш.
Так, памаўчы, патрывай, пагаруй.
Стогне пад крыжам уся Беларусь...
Але ці злучыць яе трэці Крыж?

●

А чаму паэта вольных
шчырых песень, чыстых душаў,
не прынёс каханай ружаў,
ні званочкаў, кветак польных?

А таму, што за дукаты
прадаецца свет нікчэмны.
А паэта не багаты,
не прызнаны, не багемны...

Нядаўна выйшла мая новая кніга «Споведзь». У яе ўвайшлі аўтабіяграфічныя аповесці «Зона маўчання», «Такія сінія снягі» і вершы апошніх гадоў.

Часопіс «Полымя» плануе апублікаваць заключную частку аўтабіяграфічнай трылогіі — аповесць «З воўчым білетам».

Прапаную чытачам «Літаратуры і мастацтва» два фрагменты з гэтага твора. У ім узнаўляюцца падзеі 1946—49 гадоў. Выпушчаны з лагера і на 5 гадоў пазбаўлены грамадзянскіх правоў, я ўладкаваўся выкладчыкам рускай мовы і літаратуры сярэдняй школы амаль зруйнаванага вайною Урэчча. Нягледзячы на «палітычную непаўнацэннасць», і мяне прымацавалі агітатарам на дзесяцідворку...

## Падпіска на пазыку

Сваім падапечным я мусіў чытаць газеты, тлумачыць важнейшыя партыйныя і ўрадавыя пастановы, расказваць пра буйныя дасягненні ў нашай краіне і ў лагеры сацыялізму. Слова «лагер» будзіла толькі адны ўспаміны і вярэдзіла душу, часам думаў: «Няўжо і там лагер?»

Двойчы на тыдзень я хадзіў на дзесяцідворку. Добрая палова ўрэцкіх удоў, абсыпаных дробнымі дзеткамі, яшчэ жыла ў зямлянках, петавалася і гваздалася ў гразі і гнаі на агаладалых фермах. Даглядчыцы і даяркі былі такія ж перапалыя, як ледзь жывыя каровы з накарэлымі на сцёгнах «медалямі» гною. Самых нядужых падвешвалі на вяроўках, і ўсё адно смыкалі за дойкі, абы выцягнуць «план». А я, «лішэнец», мусіў даводзіць кабетам, якія мы шчаслівыя пад сонцам сталінскай канстытуцыі, якія ў нас неабмежаваныя правы, што толькі ў СССР няма беспрацоўя, што ў нас агульная пісьменнасць, дармавое лячэнне, на палёх — трактары і камбайны, што ўсім забяспечана шчаслівае будучае.

Пераказваў перадавіцы і саромеўся глядзець у вочы змардаваным работаю, зашушканым у неданоскі і транты дачасна звялым і пасівелым маладзіцам.

У зямлянках дымілі газнічкі, на палку і каля бляшанай печкі ў рыззі капашыліся мурзатыя дзеці, амаль усе з болькамі на празрыстых тварыках і залатушных галоўках, абстрыжаных лесвічкамі. Чым я мог суцешыць гэтых няшчасных мацярок? Яны ад цямна да цямна гарбелі на калгаснай рабоце за палачкі ў ведамасці і некалькі кілаграмаў пазаддзя. Толькі легла зіма, а ўжо здзіралі счарнелыя саламяныя стрэхі на сечку, падбіралі на полі лапікі саломы.

Не столькі я агітаваў, колькі выслухоўваў жальбы, прычытанні, праклёны і плач. Часам пісаў скаргі ў пракуратуру, што без дай прычыны забралі «карміцеля». Пад скаргамі жанкі збіралі подпісы местачкоўцаў, а з турмы так ніхто і не выходзіў. Гледзячы на гэтую галечу і нэндзу, сам ледзьве стрымліваў слёзы, стараўся ўсе беды апраўдаць вайною, а жанчын абнадзеіць і суцешыць.

У канцы года пачалася «добраахвотная» падпіска на чарговую пазыку аднаўлення гаспадаркі. Мне і маладому выкладчыку беларускай мовы Паўлу Жуку даручылі правесці падпіску на нашых дзесяцідворках разам. Мой калега, мясцовы светлавалосы прыгажун, ведаў усіх, і яго ведалі з маленства. У вайну ён партызаніў і часам заскокваў у мястэчка разжыцца лекамі ці харчамі.

Вечарамі, калі папрыходзяць з работы, мы з Паўлам лазілі ў зямлянкі ўгаворваць пакутніц памагчы дзяржаве залячыць раны вайны і падпісацца на пазыку.

Памятаю, як маладзіца, нібы манашка, абвязаная да самых вачэй чорнаю хусткаю, бліснула поўнымі вачыма слёз: «Наце, забірайце ўсіх гэтых галапузых за паўсотні на разжытак уласьці!» — тыцнула чорным скручаным пальцам на траіх мурзатых дзетак з вільготным бляскам галодных вочак.— «Апруцянеюць, пахаваць не будзе за што». — А дзеці ўголас: «Не аддавай нас, мамка, мы не будзем плакаць і прасіць есці. Не забірайце, дзядзечкі, нас».— Пэўна, яны памяталі, як забіралі татку і ён не вярнуўся.

Я выскачыў з зямлянкі, каб не расплакацца наўзрыд. Следам за мною з вузкае нары вылез Павел Жук, кусаючы губы, вылаяўся і сказаў, што болей не пойдзе трэсці гэтых няшчасных гаротніц. Яму з чысценькаю анкетаю і партызанскім пасведчаннем можна было занатурыцца. А што было рабіць мне? Злазіў яшчэ ў некалькі зямлянак. Скрозь — адно і тое ж, як пад капірку, і з чысценькім падпісным лістом вярнуўся на кватэру, зваліўся на рыплівы ложак, закінуў рукі пад галаву, і апанаваў мяне жах, зрабілася страшна жыць і хлусіць гэтым змардаваным працаю і галечаю жанкам, хлусіць вучням і сабе самому. Жыццё раздвойвалася на страшную праўду і ружовую хлусню.



Восень.

Фота А. НЯМЫЦКАГА

Сяргей Грахоўскі

# З воўчым білетам



Фрагменты з аповесці

спрабаваў суцешыць сябе: можа, недзе і жывуць людзі так, як пішуць у газетах, а я нешта ні разу не бачыў. Прыходзілі і страшныя думкі: пакуль будзем дзень і ноч маліцца аднаму «вялікаму і мудраму», дабра і спакою не будзе, страх не пакіне нас. Падумаў і сам жахнуўся: барані Божа, нехта дазнаецца пра мае думкі — і канцы табе, не адапрэшся, не апраўдаешся, думаў, значыць — злачынец, вораг народа, здраднік. Добра, што яшчэ не чытаюць думкі, а каб жа!? Колькі б пайшло пад «вышку»!

Толькі часам па дарозе са школы перакідаліся намёкамі на сумненні з разумным і дасціпным выкладчыкам хіміі і батанікі Рыгорам Антонавічам Мазавецкім.

Пасля заняткаў усіх зборшчыкаў падпіскі на пазыку сабралі ў сельсавет на інструктаж. Старшыня сельсавета, памяркоўны, нядаўна дэмабілізаваны сяржант, добра знаў становішча местачкоўцаў. Але націскалі на яго, ціснуў і ён на нас: «Важнейшая палітычная кампанія — падпіска на дзяржаўную пазыку, у нашым савеце пад пагрозаю зрыву. Ніхто нам не дазволіць праваліць адказнае дзяржаўнае мерапрыемства спасылкамі на аб'ектыўныя прычыны. Недаравальна бяздзейнічаюць некаторыя настаўнікі, ад бабскіх слёз развесілі вушы і распусцілі нюні і патакаюць супраціўленню розных элементаў, а можа, і варожай дзейнасці...» — «А вы канкрэтней», — перабіў яго наезджы невялічкі чалавечак у блакітнай фуражцы. — «Я маю на ўвазе вас і вас, — тыцнуў старшыня пальцам на мяне і на Паўла Жука, — гэта ж трэба, два славеснікі не падпісалі ніводнага чалавека. Расчуліла іх, бачыце, Хадора Мінчэня, жонка нямецкага памагатага. Такія адносіны да дзяржаўнай справы інакш, як сабатаж, не назавеш...» — «Цішэй на паваротах, Сымон Пракопавіч, — ускочыў Павел Жук, — мы такія сабатажнікі, як Леўка Мінчэня памагаты. Ён жа нашаму атраду кожны тыдзень у грэлках перапраўляў спірт для шпіталя, перадаваў данясенні, а яго за гэта ўпяклі за краты, і ніхто не хоча пальцам паварушыць, каб выратаваць чалавека. На яго жонцы і кашулі няма».

Голасна заржаў парторг і галоўны пажатнік Іван Койка: «А ты замест падпіскі правяраў бабскія кашулі і што пад імі? Гы-гы-гы». — «На гэта ў цябе толькі і хапае мазгоў. Ты ж ведаеш, у кожнай зямлянцы плакаць хочацца. Там дзеці, як свечкі датляваюць. А т-ы-ы!» — агрызнуўся Павел Мікалаевіч. «От зараз мы вам пакажам, як пры правільнай пастаноўцы работы з насельніцтвам усе будуць свядома падпісвацца», — закончыў старшыня Савета. І сапраўды, паказалі. Нікуды не дзеліся, хоць з плачам і енкам падпісваліся. І Хадора Мінчэня ніяк не адкруцілася, здалася і яна.

Па тых жа зямлянках другім наваратам мы ўжо хадзілі ўтрох: папярэдзе павольна выступаў невялічкі, рудзенькі, як вераб'інае яечка, наезджы начальнік. На ім зіхацелі наваксаваныя боты, блішчалі новенькія пагоны з блакітнымі пасачкамі і маленькімі зорачкамі, на стаўбунаватай галоўцы — блакітная фуражка з чырвоным аколышам. Я ўвагнуўся і сціснуўся, што зачасаўся ў такую кампанію. Пах «Беламору» і адэкалону нагадваў мне страшныя ночы маёй жахлівай маладосці. Няўжо гэта агульны і ўстойлівы дух усіх блакітнафуражачнікаў?

Што прозвішча нашага кіраўніка таварыш Сёмін і з якое ён установы, даведаліся на нарадзе і здагадаліся па шапцы, а што валодае такою магічнаю сілаю, мы з Паўлам пераканаліся адразу. Варта было яму пераступіць парог, як гаспадыні і дзеці адразу заміралі. «Вы что, ходзяюшка, протии Советской власти имеете? А?.. Пачиму не жалаите поддаржать родное правительство, разоронное фашизмом атечества?» — Гаспадыня маўчала, склаўшы ўчарнелыя рукі на ўпалых грудзях. Сёмін з палявой сумкі выцягваў падпісны ліст, згінаўся над хісткім столікам, пытаўся: «Фамилия, имя, атечества, стать... цьфу, прывычка. Колхозница, аль рабочая? Так сколь отвалишь родному государству? Не боись, оно тибе с процентом возвернёть. Так сколь писать?» — Гаспадыня толькі ўсхліпвала ды ражочкам даўно не мытай хусцінкі выцірала вочы і, не пярэчачы супроць прозвішча і сумы, ставіла нейкую загагуліну, усхліпвала: «Калі не выстарчу, забірайце гэтых рахіцікаў, няхай разам з бацькам у тым лагеры пазыку адрабляюць». — «Не вякай, баба! Знаш, как это называецца? Аги-та-ция! Паняла? Ну, пращевай».

Так з хаты ў зямлянку, з зямлянкі ў хату, як за блішчастаю іконаю, хадзілі мы за малодшым лейтэнантам Сёміным і ходка запаўнялі падпісныя лісты. Толькі адна распатланая кабета з прыпухлымі павекамі ўзвілася ў апошнім адчаі: «Гаспадара ні за што забралі, з яго і спаганяйце, а ў мяне няма чым ні зад, ні перад затуліць», — і ляпнула па зашмальцаванай, як бляха, спадніцы. «У нас без дела не берут. Видно, пособничал». — «Каму пасобнічаў? Усе чатыры гадочкі петаваўся на смалакуры, каб з голаду не апруцянець. Якое ж гэта пасобніцтва? Падтыкнуў нейкі змей, от прудзіць вошай у вашай каталажцы, а мне з дзецьмі хоць у пельку». — «В партизаны, небось, не пошёл». — «Каб усе пайшлі, хто б карміў тых парцізанаў? От і Павел, няхай скажа, колькі разоў прыходзіў па скароміну. Праўду кажу, Мікалаевіч?» — «Што праўда, то праўда», — змрочна пацвердзіў мой калега.

Вылезшы з зямлянкі, Сёмін павучаў: «Вот как нада работать, товарищи пидагоги, ато распустили сопли. Запомните — не нажмёш, не капнет. Ишь, как миленькие подписываются». Толькі ў канцы нашай сумеснай работы я разгадаў «магічную» сілу таварыша Сёміна. Ён быў начальнікам Слуцкай турмы. Ад яго залежала прыняць падаянне ці не, даць свіданку ці адмовіць, перадаць адзежу і грошы ці вярнуць назад. Адказ быў адзін: «Не положено».

У камерах пад уладай Сёміна было поўна ўрэцкіх. Не маглі ж людзі амаль чатыры гады сядзець, склаўшы рукі, каб не заперлі ў Нямеччыну, ішлі рабіць хто на смалакур, хто на чыгунку, хто на бровар. А як толькі прыйшлі свае, пачалі падтыкаць сусед на суседа, каб заслужыць давер і пасаду. І зашнураваў «варанок» ад зямлянак да Сёмінавай мураванкі.

Паспрабуй не падпісацца ў такога «агітатара». А мы, дурні, канючылі, упрошвалі, абяцалі светлую будучыню за тыя слёзныя сірочыя чырвонцы на падтрымку дзяржавы.

Хадзіць разам з Сёміным было для мяне караю: блакітная фуражка з крывавым аколышам і блакітны пасачак на пагоне паднімалі крывяны ціск і сэрца лупіла сто дваццаць удараў у хвіліну...

А добраахвотную падпіску правялі на ўсе сто працэнтаў.

## «Выбара́»

Позняй восенню я зноў хадзіў агітаваць, каб дружна галасавалі за кандыдатаў блока камуністаў і беспартыйных, і выслухоўваў енкі і прычытанні мацярок-адзіночак — няшчасных берыеўскіх удоў.

Маю Алю прызначылі сакратаром выбарчай камісіі, каб хутка падлічвала працэнты адгаласавалых. О, гэта быў вялікі давер, і яна старалася як найлепш апраўдаць яго. Выбарчы ўчастак быў у канторы лясніцтва. У пакоі, прыбраным усім чырвоным і партрэтам правадыра і настаўніка ўсіх часоў і народаў, камісія выдавала бюлетэні, у другім стаяла пацягнутая чырвоным скрынка з вузенькаю шчылінаю ў вечку, дзеля прылікі выгарадзілі дзве кабіны, але ніхто ў іх не адважваўся заходзіць, каб, барані Божа, не падумалі, што гэта ён выкрасліў патрэбнага блоку кандыдата. Адзін хітры дзед мне сказаў: «Выбіраем, чалавеча, як у раі: Бог прывёў Адаму Еву і кажа — выбірай сабе жану. А нам зноў выбіраць Сеньку Гурыновіча. А мітрэнгі, а валтузні, не прывядзі гасподзь».

Мяне зноў апаноўвалі крамольныя думкі, каму трэба гэтая камедыя выбараў без выбару, у ёй занятыя тысячы і тысячы людзей, на сшыткі паперы няма, а друкуюць мільёны плакатаў, бюлетэняў, шлюць тэлеграмы з грыфам «Выбарчая», па ўсёй краіне ад крыку грэюцца тэлефоны, засядаюць камісіі ад Масквы да сельсавета, у дождж і ў завею на самалётах і на аленях вязуць «дакументацыю» пра вынікі выбараў. І ўсё гэта робяць на поўным сур'ёзе. Божа мой, што толькі лезе ў галаву! Можа, я сапраўды варты кары за такія думкі? І нікому не скажаш, што гняце і трывожыць. Я ў ранняй журналісцкай маладосці бачыў галодных калгасных дзяцей, на маіх вачах з голаду вымірала Украіна, каля Жлобінскага вакзала вырас цэлы пагост падобных на муміі сыноў і дачок «нэнькі Украіны». А пісаць мусіў пра шчаслівае калгаснае жыццё, суцэльныя поспехі, пра братэрства вольных народаў. Ведаў, што хлушу, і пераконваў, што гэта мясцовыя непарадкі, а недзе жывуць так, як пішуць у «Правде»...

Старшыня выбарчай камісіі дырэктар смалакурні Вігдорчык у «сталінцы» з шырокім каўняром, хоць яшчэ і снег не лёг, у фетравых бурках з закасанымі халявамі, кожную гадзіну дакладваў у раён, як ідуць «выбара́». Раёны і ўчасткі спаборнічалі, хто хутчэй ахопіць больш выбаршчыкаў. Аля падлічвала працэнты, задаволены Вігдорчык назвоньваў: «Алё! Тэрмінова па выбарчай!» і ганяў агітатараў, а тыя выпорвалі з усіх шчылін нямоглых бабуль і «нехацімцаў». Да змяркання амаль усе ўрэчаўцы выканалі свой грамадзянскі абавязак. Урну дазвалялася ўскрыць толькі ў дванаццаць гадзін ночы.

Нявыспаныя члены камісіі пазяхалі, разганялі сон чаем, выходзілі на свежае паветра. Мястэчка даўно спала, толькі ў цемрадзі недзе перабрэхваліся сабакі ды вецер рыпеў незачыненаю брамкаю. Вігдорчык усё часцей пазіраў на марудныя стрэлкі гадзінніка. Нарэшце ў чорнай талерцы маршавую музыку змяніла шыпенне, і дванаццаць разоў ударылі крамлёўскія куранты. «Пара!» — Вігдорчык адчыніў дзверы ў суседні пакой і захістаўся на парозе — урны на месцы не было, толькі з партрэта ўсміхаўся Генералісімус. Вігдорчык закруціўся на месцы, хапіўся за галаву: «Гвалт! Разбой! Укралі! Яўна варожая вылазка! Цяпер нам усім хана. А вы вушы развесілі. Даверыўся вам. Хто адшчапляў дзверы?».

Адразу не ўцяміўшы, што адбылося, сонныя члены камісіі кінуліся ў другі пакой. Урны не было. У Алі захаланула сэрца — няўжо зноў сушыць сухары? На каго зваляць віну? Вядома, на «контрыкаў», былых лагернікаў. Вігдорчык дапытваўся, хто выходзіў у двор праз «урнавы» пакой, чаму не зашчэплены дзверы. Усе пазіралі адно на аднаго, лыпалі вачыма, кляліся, што ніхто не выходзіў праз суседні пакой. За Вігдорчыкам члены камісіі павыскоквалі на вуліцу...

Наўкол была цемень, вецер шапацеў сухім лісцем кіяшніку, людзі натыкаліся на высокае цыб'е, чапляліся за капусныя храпкі, правальваліся ў разоры, прыцярушаныя першым снежком. Нідзе нікога і нічога не было. Заўсёды чырвоны Вігдорчыкаў твар выцягнуўся і пабляк. Што рабіць, вось-вось раён запатрабуе звесткі. А дзе іх узяць? Ні урны, ні бюлетэняў няма. «Чаго тут доўга думаць? Вядома, варожая дыверсія, — цвяроза разважыў парторг калгаса Брагінец. — Няма чаго цягнуць, звані ў райком, а там скажуць, што рабіць». — «Алё, алё! Мне тэрмінова райком. Так, дзяжурнага. Канешне, па выбарах, — дрыжаў голас Вігдорчыка. — Таварыш дзяжурны? Гэта з Урэчча. Яшчэ не ведаем колькі. У нас ЧЭПЭ. Кажу ЧЭПЭ. Якое? Не, не пажар. Горш. Прапала няўскрытая ўрна. Так, з бюлетэнямі. Якія жарты! Шукалі. Усё дарэмна. Канешне, вылазка. Група НКВД? Добра, будзем чакаць. Ніхто з участка не пойдзе».

На ўчастку ўсе сядзелі, як на ўласных хаўтурах, толькі Вігдорчык шнураваў узад-уперад і ўголас разважаў, хто і як мог зрабіць такую дыверсію. Свае, урэцкія, не змогуць. Падазроных усіх выкарчавалі, значыць, нейкая навалач дзейнічае ціхай сапай. Ад разважанняў і поглядаў Аля сціскалася ў камячок. Яна разумела, каго ён мае на ўвазе.

Толькі пад раніцу прымчаўся «козлік» з трыма аператыўнікамі. Яны сурова дапытвалі кожнага члена камісіі паасобку, дамагаліся: «Хто гэта мог зрабіць? Каго падазраяце?» Агледзелі дзверы ў сенцах. Яны прыставалі няшчыльна. На падлозе знайшлі веласіпедную спіцу. Ёю і адкінулі зашчапку. З ліхтарыкамі выйшлі ў двор шукаць сляды злачынцы, але там усё было сталочана ботамі членаў камісіі і буркамі старшыні. Аператыўнікі мацюкамі крылі «шэрлокаў»: «Вы што, можа, знарок заблыталі сляды, каб ніводная аўчарка не знайшла?»

Колькі ні лаялі, колькі ні бегалі, — урны не было. А ў пакоі не сціхаў тэлефон — акруговая камісія тэрмінова патрабавала весткі аб выніках галасавання. Урэчча затрымлівала справаздачу па вобласці і рэспубліцы. Параіліся з аператыўнікамі і знайшлі выйсце: па спісах прагаласавалі ўсе, у кабіны ніхто не хаваўся. Брагінец назіраў і адказваў за гэты ўчастак. Значыць, і паведамляй — прагаласавалі ўсе сто працэнтаў. Не, так не прынята. Паўпрацэнта трэба скінуць. Так і паведамілі. Такія весткі можна было перадаваць з кожнага ўчастка без галасавання і траты часу і сродкаў.

Раптам праз запацелае акно ўбачылі і вачам не паверылі: сама на кароценькіх ножках, прыкрытая шапкаю, ішла чырвоная скрынка. Вігдорчык ірвануўся насустрач. Урну нёс начны вартаўнік смалакурні. Убачыў дырэктара, паставіў скрынку, выцер шапкаю лоб: «Ух, ты, не такая цяжкая, халера, як няўдобная. Няма за што ўчапіцца. Пальцы здранцвелі». — «Я табе пакажу халеру! Дзе яе ўзяў?» — аж заходзіўся Вігдорчык. «Іду гэта я з дзяжурства, пералез пуцця, аж бачу нехта ў бур'яне ў чырвонай кашулі сагнуўся. Гукнуў — не азываецца. Дай, думаю, пагляджу, што ён там робіць. Падышоў, аж — скрынка. Гэта ж і я ўчора паперчыну кідаў. Патрос, шамаціць усярэдзіне. Дай, думаю, аднясу ў лясніцтва, можа, спатрэбіцца. От і валаку, як дурань пісаную торбу».

Аператыўнікі агледзелі скрынку з усіх бакоў. Ускрылі. Усе бюлетэні на месцы, вывернулі на стол, пачалі лічыць. Сярод іх мільганула адарваная ад вокладкі сшытка блакітная паперчына з буйным надпісам друкаванымі літарамі: «Вігдорчык, не спі!» — Пачалі разглядаць запіску, і пад табліцай множання заўважылі дробненькі подпіс «Віцёк Дзян...» і пакручасты хвост. «Хто такі ў вас Віцёк Дзян?» — сурова спытаў старшы аператыўнік. Доўга думалі і перабіралі. «Няўжо сынок майго тэхнарука Віця Дзенісевіч? — заекатаў і закалаціўся Вігдорчык. — Як адразу не здагадаўся, што гэты гад можа так адпомсціць». Вігдорчык не памыліўся. Тэхнарук смалакурні Іван Дзенісевіч даўно грызся з дырэктарам і ніяк не мог яго сапхнуць. Надумаўся ў часе выбараў. На добрым падпітку, а ў гэты дзень чаго-чаго, а гарэлкі было, хоць заліся, Дзенісевіч пракраўся каля поўначы з задніх дзвярэй, веласіпеднаю спіцаю адкінуў зашчапку, забраў урну...

Калі яго дапытвалі, расказаў усё, як было: па п'янцы хацеў папалохаць Вігдорчыка, каб усе ведалі, якая гэта варона. Ранейшыя сігналы не дзейнічалі, дык, можа, цяпер загрыміць. І сапраўды, паляцеў з дырэктарскага крэсла, а Дзенісевічу далі вымову з занясеннем.

Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ

# ЦІ ТОЕ НА АФІШЫ?

**Неюбілейныя развагі ў сувязі з юбілеем тэатра імя Янкі Купалы**

НОВАЕ мысленне — гэта перагляд, апрача ўсяго іншага, і эстэтычных канцэпцый, ацэнак, рэгламентацый у мастацтве, звязаных перш за ўсё з рэвалюцыйным разуменнем прымату агульначалавечых каштоўнасцей над класавымі, групавымі, вузка-сацыяльнымі. З гэтага пункту гледжання, як нам здаецца, трэба падыходзіць і да аналізу складаных праблем развіцця сучаснага нацыянальнага тэатра, у прыватнасці беларускага. Вельмі лёгка абвінаваціць тэатр у адыходзе ад традыцый, у страце іх. Але давайце на хвіліну задумаемся: ад якіх традыцый сёння тэатр адыходзіць, ад чаго ён адмаўляецца? Хіба многае з таго, што з'яўляецца ў апошнія гады на сцэне, у прыватнасці, купалаўскага тэатра, не ёсць творчы працяг самых лепшых нацыянальных тэатральных традыцый. Ды ўвогуле — што такое традыцыя, як яе разумець?

На працягу многіх дзесяцігоддзяў нават у сваіх лепшых спектаклях тэатр імя Янкі Купалы не мог вырвацца з пэўных тагачасных ідэйных і эстэтычных рэгламентацый. Праўда жыцця ў драматургіі і на сцэне падмянялася яго ілюзіяй; так званы метад сацыялістычнага рэалізму заклікаў паказваць жыццё такім, якім яно павінна быць, а не якое яно ёсць. Напрыклад, адзін з самых лепшых твораў беларускай даваеннай драматургіі — камедыя К. Крапівы «Хто смяецца апошнім» сапсавана ілжэ-шчаслівай канцоўкай, калі толькі «станоўчы» сакратар парткома можа зразумець і вырашыць самы складаны і непрымірымы канфлікт. Не вытрымалі выпрабавання часам адзначаныя Сталінскай прэміяй (найвышэйшая тагачасная адзнака!) творы і спектаклі па іх — «Канстанцін Заслонаў» і «Пяюць жаваранкі». А што казаць пра безліч іншых п'ес драматургаў і беларускіх, і рускіх, што ішлі ў так званы перыяд «бесканфліктнасці»? А што змянілася, калі «тэорыю бесканфліктнасці» сталі так паціху, паблажліва крытыкаваць? Мне здаецца, гэта вельмі востра і балюча адчувалі свядома і падсвядома ў тыя гады многія дзеячы тэатра. Таму міжволі эстэтычнай прыманкай, цэнтрам, які вабіў гледачоў, мог у тыя гады сапраўды іх зацікавіць, станавіўся яго Вялікасць Акцёр, з яго цудадзейным мастацтвам ліцадзейства, пераўвасаблення. Вядома, сапраўдны вялікі талент—рэдкасць, але—я перакананы—з'яўленне Б. Платонава, Г. Глебава, У. Уладамірскага і іншых зорак першай велічыні купалаўскай сцэны абумоўлена сярод многіх і канкрэтнымі сацыяльна-гістарычнымі прычынамі.

Многія крытыкі і тэатразнаўцы лічаць, што прыход у тэатр імя Янкі Купалы на мяжы шасцідзесятых-сямідзесятых гадоў маладой здольнай рэжысуры (В. Раеўскі, Б. Луцэнка, пазней А. Андросік, зусім нядаўна — М. Пінігін) пазначаны актыўнай «ломкай», нават «разбурэннем» усіх купалаўскіх традыцый. Не пачынаючы падрабязную палеміку з такім прынцыпова памылковым поглядам, заначу толькі, што гэтыя «дыктатары-рэжысёры» дамагліся найбольшых поспехаў толькі тады, калі ў іхніх спектаклях (менавіта з іх рэжысёрскаю дапамогай) адкрываліся новыя акцёрскія імёны ці раскрываліся новыя фарбы багатага таленту ўжо вядомых майстроў (самы сціслы пералік: «Што той салдат, што гэты», «Святая святых», «Радавыя», «Трыбунал» — у В. Раеўскага, «Шрамы» і «Даходнае месца» — у А. Андросіка, «Жыццё Карыцына» і «Гарольд і Мод» — у М. Пінігіна). Па-другое, сапраўдная жывая традыцыя тэатра імя Я. Купалы — актыўны рэжысёрскі пошук, пошук і агульнай тэатральнай формы і канкрэтна-вобразнай сцэнічнай метафарычнай мовы і пластыкі ў кожным спектаклі. Прыгадаем такія этапныя спектаклі, як «Хам» Э. Ажэшкі (1921 г., рэжысёр Ф. Ждановіч), «Вучань д'ябла» Б. Шоу (1922 г., рэжысёр Е. Міровіч), «Кар'ера таварыша Брызгаліна» Е. Міровіча (1925 г., ён жа рэжысёр), «Мост» Я. Рамановіча (1929 г., Е. Міровіч), «Гута» Р. Кобеца (1930 г., Е. Міровіч), «Ярасць» Е. Яноўскага (1930 г., А. Смяянаў), «Бацькаўшчына» К. Чорнага, (1932 г., Л. Літвінаў), «Жакерыя» П. Мерымэ (1934 г., Л. Літвінаў), «Сімфонія гневу» В. Шашалевіча (1935 г., Л. Літвінаў і П. Данілаў), «Апошнія» М. Горкага (1937 г., М. Зораў) і іншыя. Усе яны вызначаліся дзейснай, актыўнай пастановачнай рэжысурай у спалучэнні з яскравымі акцёрскімі індывідуальнымі дасягненнямі.

Пэўны спад цікавасці гледачоў да беларускага нацыянальнага тэатра, звязаныя з ім крызісныя з'явы ў яго развіцці, выкліканыя такімі сацыяльна-культуралагічнымі працэсамі ў грамадстве, як рэзкае звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы, знікненне яе са школ і ВНУ, дэнацыяналізацыя культуры і «рэшткавы» прынцып яе фінансавання, няправільная трактоўка гісторыі і спадчыны, — ва ўсім гэтым некаторыя чамусьці імкнуцца перш за ўсё абвінаваціць непасрэдна сам тэатр, пазбегнуць аналізу сапраўдных прычын усяго гэтага. Калі шукаць прычыны «наогул у сістэме», — пытаецца Т. Гаробчанка («ЛіМ», 4.05.1990 г.), — «ці не здымаем мы тым самым адказнасць з канкрэтных людзей, якім нададзены **высокі давер кіраваць (!—В. Н.)** нацыянальнымі тэатрамі, а гэта значыць і ствараць нацыянальную культуру?» Значыць: да адказнасці, і ўсё будзе добра. Справа нават не ў пракурорскім тоне, характэрным для нашай тэатральнай крытыкі на працягу многіх гадоў, хоць надышоў час змяніць яго. Хіба не наіўная сёння думка, што ад адказнасці асобных кіраўнікоў залежыць развіццё ўвогуле такога складанага, сінтэтычнага мастацтва, якім з'яўляецца тэатр? Які канкрэтна кіраўнік, напрыклад, можа забяспечыць напісанне добрай п'есы, цікавае рэжысёрскае рашэнне, удалую сцэнаграфію і г. д.? Час, калі камандавалі талентам, адышоў назаўсёды.

Адну з прыкмет таго, што «страчаны традыцыі», многія бачаць у нібыта знікненні ў тэатрах Я. Купалы і Я. Коласа «нацыянальнага аблічча». Тэатры гэтыя, маўляў, беларускамоўныя, але не нацыянальныя. З гэтым сцвярджэннем вельмі цяжка пагадзіцца, хоць, сапраўды, п'ес беларускіх драматургаў ставіцца на нацыянальнай сцэне параўнаўча мала. Але, што б ні казалі пра неабходнасць працы з драматургамі, тэатры ў гэтым не вінаватыя, бо заўсёды тэатр ішоў за драматургіяй як жанрам літаратуры, залежаў ад яе. Усё лепшае, што па сваіх мастацкіх якасцях знаходзіцца на ўзроўні патрабаванняў сучаснага рэпертуару, знаходзіла сваё ўвасабленне на купалаўскай або коласаўскай сцэне. Нельга забываць, што ўключэнне ў рэпертуар п'есы не адбываецца толькі па жаданні аднаго кіраўніка тэатра: п'есу абмяркоўвае мастацкі савет або ўся трупа. Я не чытаў і не чуў у апошнія гады аніводнага абгрунтаванага доказу, што, маўляў, вось ёсць такая і такая добрая беларуская п'еса, а тэатры ёй не зацікавіліся. І не дзіва — у нас, на жаль, поўнасцю адсутнічае крытыка нацыянальнай драматургіі як галіна літаратурнай ці тэатральнай крытыкі.

Дык у чым жа нацыянальнае аблічча тэатра? У чым канкрэтна яно павінна выявіцца, але не выяўляецца? Т. Гаробчанка ў згаданым вышэй артыкуле звязвае нацыянальнае з імкненнем «спасцігнуць глыбінную сутнасць характару беларуса, яго духоўны свет, яго звычаі і норавы, адметнасць яго побыту». А перад гэтым крытык спасылаецца на філосафа В. Чурбанава, які сцвярджае як адзнаку нацыянальнага «свой лад пекчы хлеб, будаваць сям'ю, уладкоўваць побыт, мець зносіны». Але давайце паразважаем канкрэтна, паспрабуем канкрэтна вызначыць, чым беларус сёння істотна адрозніваецца ад блізкіх і далёкіх суседзяў з пункту гледжання ўсяго пералічанага? Побытам? Дык ён проста ў сілу пэўных сацыяльна-гістарычных прычын яшчэ, на жаль, даволі адсталы і неўладкаваны ў параўнанні з цывілізаванымі замежнымі краінамі. Звычаі, норавы? Магчыма, наша цярплівасць і ўсёдаравальнасць вядомыя сёння ва ўсім свеце, але так склаўся наш гістарычны лёс і такіх мы маем кіраўнікоў. Калі трэба было, дык і наш народ, як і многія іншыя, узнімаўся на барацьбу з самымі рознымі формамі прыгнечання. Свой лад пекчы хлеб? Я бачыў, як пякуць хлеб у Грузіі. Тэхналогія, праўда, крыху іншая, але ў грузін абсалютна тое ж, як і ў беларусаў, святое стаўленне да хлеба, зямлі, сонца... Сям'я? Сёння ва ўсіх цывілізаваных народаў яна манагамная, палігамія калі дзе-нідзе і існуе, дык насуперак афіцыйным законам. А асновы хрысціянскай маралі паўсюль адны і тыя ж.

Так, у розных народаў розны гістарычны лёс, рознае мінулае, розныя гістарычныя карані іх сучаснага сацыяльнага і культурнага становішча, і ўсё гэта, а не пошук нейкіх звышадметных нацыянальных асаблівасцей асобнага індывідуума павінна ў час новага адраджэння нацыі стаць аб'ектам мастацкага даследавання, у тым ліку і сцэнічнага, тэатральнага. Зыходзячы з такога разумення, фарміруецца ў апошні час і рэпертуар тэатра імя Янкі Купалы. Прычым, улічваючы ўсё ж неабходнасць у сённяшніх умовах змагацца за свайго гледача, адным з першых крытэрыяў з'яўляецца тое, ці будзе спектакль хваляваць сёння, у даволі складаных сацыяльных умовах? Ці дасць ён, па выразу В. Ракіцкага («Спадчына», № 1, 1990 г.), зразумець, «дзе я знаходжуся, на якой зямлі жыву, на якую хваробу хварэе мой народ»?

Возьмем апошнія купалаўскія прэм'еры, пачынаючы з 1989 года. Хіба не адбіліся настроі нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі ў спектаклі паводле Я. Шварца «Дракон», пастаўленым М. Пінігіным, асабліва пасля падзей 30 кастрычніка 1988 года ў Мінску? На думку аднаго з гледачоў, народнага дэпутата БССР, віцэ-прэзідэнта Беларускага экалагічнага саюза Лявона Тарасенкі, гэты спектакль — «спроба давесці беларускаму гледачу, які дракон сядзіць у нашым народзе» («Мастацтва Беларусі», № 3, 1990 г.). Не могуць не ўзрушыць напісаныя спецыяльна да спектакля песні і зонгі Леаніда Дранько-Майсюка, кожная фраза якіх накіравана непасрэдна ў гэту, беларускую залу, да беларускага гледача. І не дзіва, што пасля першага ж паказу «Дракона» пад час гастроляў купалаўцаў у Кіеве на сцэну, узрушаныя, выбеглі юнакі і пачалі размахваць украінскімі і беларускімі нацыянальнымі, тады яшчэ забароненымі, сцягамі.

«Памінальная малітва» Р. Горына па матывах твораў Шолам-Алейхема ў пастаноўцы Б. Эрына і ў бліскучым перакладзе У. Някляева гучыць як натхнёны, выпакутаваны, народжаны і душой і сэрцам заклік да ўсіх людзей, незалежна ад веры і нацыянальнасці, жыць у міры, згодзе і дружбе паміж сабой. За плячыма ў асноўнага героя Тэўе, якім яго стварае нар. арт. БССР А. Мілаванаў, — і шматпакутны жыццёвы вопыт беларускага селяніна, яго адвечная дабрыня і спагада да людзей, гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу, прытуліць чалавека, падзяліцца кавалкам хлеба. Хіба не да часу быў пастаўлены і гэты спектакль, які вось ужо два гады ідзе на аншлагах? Можа, і ён — «беларускамоўны, але не нацыянальны», а значыць і лішні на купалаўскай сцэне?

«Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева (рэжысёр В. Раеўскі) заклікае гледача задумацца над глыбіннымі каранямі, прычынамі многіх цяперашніх сацыяльных бед і нястач. Яны — у трагедыі беларускага сялянства на мяжы дваццатых і трыццатых гадоў, калі знішчалася і матэрыяльная, і маральная аснова існавання самога селяніна, а значыць і нацыі. Адкрыць новае літаратурнае драматургічнае імя—вось гэта сапраўдная плённая традыцыя купалаўскага тэатра. (Прыгадайце, як прыйшлі ў літаратуру і драматургію, напрыклад, В. Гарбацэвіч, В. Шашалевіч, Д. Курдзін, Р. Кобец, К. Губарэвіч, А. Макаёнак, А. Дудараў). В. Раеўскі ўбачыў у драме нікому яшчэ невядомага Уладзіміра Бутрамеева мастацкае адкрыццё — незвычайны вобраз селяніна Аўдзея, для якога найвышэйшая рэлігія — праца на зямлі, і не толькі рэлігія, але і каштарыс усіх і рэчавых, і маральных каштоўнасцей. Таму я рашуча не згодны з тымі, хто лічыць гэту п'есу слабой, вучнёўскай» (Ж. Лашкевіч, «ЛіМ», 22.06. 1990 г.). У выкананні нар. арт. БССР Г. Аўсянікава гэты сапраўды нацыянальны вобраз набывае магутную сілу вялікага мастацкага і сацыяльнага гучання. І вельмі дзіўнымі ўяўляюцца спробы адмовіць Аўдзею — Аўсянікаву ў прыналежнасці да беларускага нацыянальнага тыпажу. Крытык Г Колас лічыць, што спраўны селянін не пашле дзяцей каласкі збіраць, калі ўжо бульбу пакапалі («Крыніца», № 5—6, 1990 г.) «Занадтай скацінай» абразліва называе гэты персанаж журналіст Я. Росцікаў («Мастацтва Беларусі», № 4, 1990 г.), папракаючы, што ён чамусьці не гуляе, не сумуе, «нічога навокал не бачыць, нічога не чуе, не разумее нават, што да ягонага спрадвечнага моцнага хутара падбіраецца «новае жыццё». Найбольш катэгарычная Ж. Лашкевіч: «...Няўжо на гэткім зацятым балбатуне, прагавітым мужыку, сацыяльным недарэку, які не бачыць нічога вакол сябе, акрамя «малацілкі», трымаецца свет?» Лічу, што вышэйназваныя крытыкі проста не зразумелі чалавечай сутнасці менавіта гэтага вобраза. Не тая ці іншая тэндэнцыя пераважае ў Аўдзеі, ён проста — такі чалавек, з такім характарам, сутнасць якога — у незвычайнай павазе да працы і да ўсяго зробленага, створанага, выпакутаванага і выпеставанага сваімі рукамі. І мы застаёмся ў лутах старога канфармісцкага спосабу мыслення, калі не разумеем, чаму Аўдзей пасылае дзяцей па каласкі, чаму для яго такая важная «малацілка», хоць ён і вельмі многа бачыць і разумее вакол, думаючы не толькі аб сабе, але і аб дзецях, дзецях... Менавіта ў гэтай палемічнасці вобраза, якога па тыпажу няма, напрыклад, у М. Шолахава, І. Мележа, Ф. Абрамава, Б. Мажаева, — сутнасць мастацкага адкрыцця маладога драматурга і тэатра.

Свайго гледача мае і спектакль па драме сучаснага венгерскага драматурга Акаша Кертаса «Яны любілі яго», пастаўлены ў якасці самастойнай працы З. Браварскай і групай актрыс тэатра. Магчыма, у ім не ўдалося дасягнуць неабходнай для спектакля на такую тэму акцёрскай ансамблевасці, мастацкай закончанасці. Але сам выбар п'есы, дзе даволі тонка і пераканаўча паказваецца, як таталітарная сістэма душыць, прыгнятае, цісне чалавека нават на ўзроўні сямейна-побытавым, дамашнім, вельмі актуальная і сёння, у наш час, і ў Венгрыі (п'есу купалаўцы паставілі напярэдадні карэнных рэвалюцыйных змен у гэтай краіне), і ў нас, у Беларусі. Бо побыт — гэта не толькі вонкавыя прыкметы нацыянальнага пейзажу і розных рэчаў, гэта—для мастацтва перш за ўсё — чалавечыя ўзаемаадносіны. «Нічога не зменіцца»,— сцвярджае пасля доўгага маналогу-роздуму ў канцы гэтага спектакля Матухна, галоўны персанаж драмы. Папрок кінуты, на наш погляд, як і ў «Драконе», непасрэдна і менавіта ў беларускую залу, да сённяшніх гледачоў. Да таго ж, нельга забываць, што ў Венгрыі ўсё ж нешта ды і змянілася.

Пасля прагляду на фестывалі ў Кракаве купалаўскіх «Эмігрантаў» (рэжысёр М. Пінігін) аўтар драмы, вядомы польскі драматург Славамір Мрожак, узрушаны, сказаў, што ён здзіўлены, як удалося артыстам Г. Маляўскаму і А. Дзянісаву перадаць духоўныя рысы беларускага нацыянальнага характару ў створаных ім, С. Мрожакам, персанажах, якія нават і імя свайго не маюць, — нейкія А. А. і Х. Х. Хіба гэта ацэнка не доказ неабходнасці пастаноўкі менавіта гэтага спектакля ў час, калі пачалося новае беларускае нацыянальнае адраджэнне? «Беларусы ігралі братэрства ў няволі, чыстыя чалавечыя адносіны, драму выгнання, бяздомнасць, як натуральны стан чалавека», — напісаў польскі крытык Б. Мамонь, параўноўваючы беларускія «Эмігранты» са спектаклямі па гэтай п'есе з Масквы і Парыжа («Тыгоднік Паўшэхны», 15 ліпеня 1990 г.). А М. Дубянецкі, перакладчык «Эмігрантаў» на беларускую мову, адзначаны спецыяльным дыпломам Усесаюзнага агляду польскай драматургіі за лепшы сцэнічны пераклад з польскай мовы.

Спрачаюцца гледачы і крытыкі вакол спектакля «Вар'яцкае жыццё», цікава і арыгінальна пастаўленага А. Андросікам. Менавіта так — «Вар'яцкае жыццё», а не «Дурное жыццё», як лічыць У. Нялідаў («ЛіМ», 20 ліпеня 1990 года), перакладаецца на беларускую мову назва гэтай драмы С. Злотнікава. Асноўная яе праблематыка, асноўны канфлікт мае самае непасрэднае дачыненне да сённяшняй Беларусі, у драме выразна чытаюцца пакуты і боль чарнобыльскай трагедыі. Засл. арт. БССР А. Падабед стварае ў спектаклі неадназначны вобраз вучонага, апантанага ідэяй ўратаваць чалавецтва, рысы яго мы

## *На скрыжаванні думак*

**Мяркуючы па рэдакцыйнай пошце, ці не найбольшы грамадскі рэзананс сёлета выклікала публікацыя на старонках «ЛіМа» шэрагу артыкулаў Анатоля Сідарэвіча. Нагадаем іх загалоўкі: «Вяртаемся на крэсы?» (13 красавіка), «Ці будзем мы нацыяй?» (29 чэрвеня), «Роздум пасля Грунвальда...» (10 жніўня), «Забастоўка ў Вярэйках...» (7 верасня).**

**Працэсы нацыянальна-культурнага адраджэння па абодва бакі дзяржаўнай мяжы, на Беларусі і ў Польшчы, вылучылі на парадак дня мноства праблем, дагэтуль ці то нязнаных, ці то прыхаваных пад друзам афіцыйнай ідэалогіі. І менавіта наяўнасцю гэтых праблем у жыцці, іх вастрынёй і неадназначнасцю, а не якімі іншымі меркаваннямі кіравалася рэдакцыя, бласлаўляючы ў друк артыкулы А. Сідарэвіча. Пры гэтым мы ўсведамлялі, безумоўна, і наяўнасць іншых думак, поглядаў. Вось, напрыклад, што піша ў «Известиях» Эдуард Лімонаў, пісьменнік-эмігрант, які жыве ў Францыі і якога пры ўсім жаданні не западозрыш у «прабеларускіх» ці якіх іншых «пра»-прыхільнасцях:**

**«Я нічога не маю супраць палякаў. Яны смелыя салдаты, нацыя таленавітая і моцная. Дай ім Бог калектыўнага здароўя. Але няхай яны скончаць тлумачыць гісторыю на сваю карысць. Прызнаюць свой другасортны фашызм 1918—1939 гг. І не ганарацца сваёй неіснуючай цнатлівасцю разам з іншымі ўсходнееўрапейскімі нібыта ахвярамі. Так, яны ахвяры Гісторыі, але яны ж і яе агрэсары. (Гэтаксама, як і Савецкі Саюз). Яны ахвяры не толькі Германіі альбо СССР, як ім зручна думаць, але ў вельмі вялікай ступені ахвяры сваіх уласных страсцей і апетытаў».**

**Сёння, працягваючы распачатую А. Сідарэвічам тэму, друкуем лісты з рэдакцыйнай пошты. Мы ўстрымліваемся ад каментарыяў: няхай нашы чытачы самі робяць высновы...**

# ПАТРЭБНА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КАНСАЛІДАЦЫЯ

Пішу пасля з'яўлення ў газеце артыкулаў А. Сідарэвіча. Родам я з Ашмяншчыны, і мяне вельмі хвалюе тэма артыкулаў.

Я доўга думаў, чаму заходнебеларускі селянін так лёгка паддаецца паланізацыі ў наш час. Ён жа ў пераважнай сваёй масе не ведае і дзесятка польскіх слоў, карыстаецца ў жыцці беларускай мовай, на якой гаварылі яго дзяды, прадзеды.

Адну з прычын знайшоў пры супастаўленні лёсу маёй бабулі, якая жыла ва Усходняй Беларусі, і ашмянскіх жыхароў. З аповядаў бабулі паўстае карціна цяжкай працы ў калгасе, жабрацкага побыту, паўгалоднага і беспрацоўнага існавання. За 60 год з яе свядомасці, па-мойму, выбіта адчуванне, што яна — гаспадар на сваёй зямлі, бо зямлю забралі ў 30-х. Сваё сённяшняе жыццё ў параўнанні з калгасным яна ўспрымае, як рай.

Селяніна Заходняй Беларусі раскулачвалі і заганялі ў калгас на пачатку 50-х, і праводзілася тое не так жорстка, як у 30-я. Тыя людзі, якіх ператварылі з гаспадароў у падзёншчыкаў, яшчэ не такія старыя. Сёння яны кажуць, што «за Польшчай было лепей, чым за Саветамі», бо яны памятаюць, што тады ў іх была свая зямля і яны былі гаспадарамі свайго лёсу (хоць на самай справе жылі горш, чым цяпер).

Другая прычына — у тым, што на працягу ўсяго пасляваеннага часу праводзілася палітыка вынішчэння беларускай мовы і беларускай свядомасці. Нездарма ж у маім Ашмянскім раёне, на радзіме Ф. Багушэвіча, раённая газета выходзіць па-руску, абласная — таксама. Заезджаму чалавеку тут нагадвае пра беларускасць хіба толькі шыльда на рэстаране ды гаворка людзей. Тутэйшыя ідэолагі, відаць, думаюць так: хай будзе ў людзей хоць польская свядомасць, абы толькі не беларуская. Ёсць сілы, зацікаўленыя ў падмане народа.

У першую чаргу гэта каталіцкае духавенства, якое ў масе сваёй адпраўляе службу выключна па-польску. За гэтым ідзе патрабаванне польскай школы для католікаў, бо католік, згодна сцвярджэнню ксяндзоў, ёсць паляк. Вось і пайшлі ўжо тысячы беларускіх дзетак у польскую школу.

Другая сіла — апалячаныя католікі-беларусы, свядомыя рэнегаты, якія замест таго, каб самім падымаць свой народ з каленяў да людскага і годнага жыцця, шукаюць «старэйшага брата», каб аддаць лёс сваёй Радзімы ў рукі мацнейшага суседа.

Тут, на Беларусі, кааліцыя гэтых дзвюх сіл пакуль што не афішуе сваіх канчатковых мэт. Затое, пабываўшы ў Польскай Рэспубліцы, на Беласточчыне, я добра зразумеў іх. Пахадзіўшы па вуліцах Беластока і другіх гарадоў і вёсак, пачытаўшы прэсу, заўважыў, што, згадваючы беларускія землі, нашы заходнія суседзі неяк не дужа часта ўпамінаюць Беларусь, затое часта — «Крэсы Всходне».




У цэнтры Беластока стаіць урна для грашовых ахвяраванняў на пабудову помніка Пілсудскаму, а побач — заклік да жыхароў «крэсаў усходніх», каб і яны ахвяравалі свае грошы. Я не ведаю, кім быў Пілсудскі для Польшчы, але ведаю, што для «крэсаў усходніх» ён быў прыгнятальнікам, які закатаваў сотні беларускіх патрыётаў, жорстка душыў усё беларускае. І калі для мяне Хатынь — сімвал гітлераўскага генацыду, Курапаты — сталінскага, то канцлагер Картуз-Бяроза — сімвал разбою Пілсудскага на маёй зямлі. Між тым, на Беласточчыне, дзе і цяпер жыве больш за 300 тысяч беларусаў, як бы знарок культывуецца культ Пілсудскага. Няма ніводнага кіёска і кнігарні, дзе б не вісеў каляровы партрэт і не было б дзесятка розных кніг пра яго. Міжволі ўспамінаюцца часы, калі ў кожным нашым кіёску былі творы Л. Брэжнева, хоць і не ў такой колькасці.

Існуе «Таварыства сяброў Вільні і Гродна», якое нават выпусціла каляндар з гербамі «крэсавых» гарадоў: Гродна, Слоніма, Вільні і інш.

У горадзе Гайнаўцы вуліца Леніна перайменавана ў вуліцу Арміі Краёвай. Я не ведаю, якую долю барацьбы з фашызмам вынеслі байцы АК у карэннай Польшчы, але на Беласточчыне, у прыватнасці ў ваколіцах Гайнаўкі і Бельска, яны больш вядомыя ў якасці карнікаў, якія палілі беларускія вёскі і вынішчалі іх жыхароў. У адной з гэтых вёсак ледзь не згарэў дзядзька майго бацькі (яму цудам удалося выскачыць праз акно палаючай хаты). Можа, і майго бацьку сустрэў бы сумны лёс, каб ён не выехаў у БССР.

Цяпер нашчадкі тых бандытаў амаль штотыдзень паляць або рабуюць праваслаўныя цэрквы.

Я пераканаўся, што ў Польшчы вельмі моцныя сілы, якія разглядаюць Беларусь як часова акупіраваную частку Польшчы, а беларусаў-католікаў залічваюць у палякі.

Відаць, гэтыя спадзяванні на адраджэнне Польшчы «ад мора да мора» падзяляюць і тутэйшыя сілы, пра якія я гаварыў вышэй.

На ўсё гэта можна было б і не зважаць, каб Беларусь была суверэннай і моцнай еўрапейскай дзяржавай і каб абставіны ў Еўропе былі стабільныя.

Але цяпер тут паўстае новая звышдзяржава — аб'яднаная Германія. Як гэта паўплывае на ўзаемаадносіны паміж Польшчай, Літвой, Латвіяй і Беларуссю?

Першы трывожны званок празвінеў!

Ужо група латышоў ставіла межавыя слупы ў глыбіні тэрыторыі БССР, а ўслед за гэтым і ўрад Латвіі заявіў, што будзе аднаўляць мяжу Латвіі з Беларуссю згодна дагавору Латвіі з Расіяй ад 11.08.20 г., які беларусы не падпісвалі. Дык што? Нашу тэрыторыю зноў будуць дзяліць суседзі?

Калі Літва будзе патрабаваць аднаўлення межаў згодна дагавору ад 12.07.20 г. паміж Літвой і Расіяй, дзе Беларусь нават і не ўпамінаецца, то прыйдзецца аддаць Гродна з Лідай, Ашмянамі, Смаргонню, Паставамі, Браславам і яшчэ палову Маладзечна. А калі і Польшча запатрабуе «Крэсы Всходне» згодна Рымскаму трактату 20-га года, калі без згоды беларусаў падзялілі Беларусь паміж Польшчай і Расіяй, то польская мяжа будзе за кіламетраў 20 ад Мінска. І ў Радашковічы давядзецца ехаць з замежным пашпартам. Гэта зусім не фантастычная сітуацыя. Падзеі апошняга часу развіваюцца менавіта ў гэтым напрамку.

Мы зможам годна існаваць у Еўропе, толькі калі будзем скансалідаваны нацыянальна, моцныя эканамічна, мець той мінімум нацыянальнага войска, які не дазволіць ставіць межавыя слупы другіх дзяржаў на нашай зямлі!

**Валерый ПАЛСЦЮК,**
**інжынер СКБ «Камертон».**
г. Мінск.

# МЫ—ЧАСТКА НАРОДА БЕЛАРУСІ

У назве артыкула А. Сідарэвіча за 29.06.90 г. сфармулявана пытанне: ці будуць беларусы нацыяй? Мы, палякі, адказваем: «Так! Ёсць і будуць, тым болей цяпер — у часы вялікага нацыянальнага руху». І таму вельмі дзіўнымі і сумнымі падаліся нам некаторыя яго разважанні. Увогуле, гэта апошняя справа, калі кроўныя прыяцелі пачынаюць лічыць-пералічваць агульны набытак на сваю карысць.

Так нельга, бо за гэтым пачынаецца варожасць.

Іменна так здарылася ў Літве. Нам вельмі дзіўна, што літоўцы, паставіўшы сабе за мэту адбудаванне незалежнасці рэспублікі, пачалі не з аб'яднання ўсіх сіл, а са спрэчак з другімі нацыямі: палякамі, беларусамі, рускімі.

А, можа, каму вельмі карціць не дапусціць да аб'яднання прагрэсіўных сіл, бо з кожным паасобку справіцца лягчэй? Палітыка «падзяляй і ўладарнічай» сябе паказала ў гісторыі неаднаразова.

Таму я думаю, што хопіць розуму і ў беларусаў і ў палякаў, каб процістаяць разам варожым сілам, якія хацелі б нас раз'яднаць. Як вельмі правільна сказаў на I з'ездзе палякаў у Гродне гісторык Міхась Ткачоў, беларусы і палякі на працягу пяці стагоддзяў здалі экзамен братэрства, узмацнілі яго крывёю ў агульнай барацьбе з ворагамі і царскім прыгнётам.

Я за 50 гадоў асабіста ўпэўніўся ў вялікай талерантнасці абодвух нашых народаў. Ні ў школе, дзе мы вучыліся з беларусамі разам, ні ў інстытуце ў Мінску, ні на працы я не напаткаў ніводнага выпадку варожасці ці хаця б жарту на нацыянальнай глебе. Нават жарту!

Так, кароткі час Заходняя Беларусь была пад уладай Польшчы. Гэта мы ведаем, гэта нам, палякам, баліць, што сярод нашага народа знайшліся такія людзі, для якіх справы беларусаў на іх жа роднай зямлі былі чымсь варожым.

Але мушу зазначыць, што такога, быццам легіянеры адсеклі галаву дзяўчыне, быць проста не магло — культура і рэлігія не дазволілі б. Гэта выдумкі, як выдумана ў фільме «Чырвонае лісце» тое, што польская паліцыя з кулямёта расстраляла дэманстрацыю: не было ў яе ніколі кулямётаў. Такое накручванне жахаў было некалі выгадна сталіністам, каб прыкрыць жудасны генацыд над народамі.

Вельмі слушна сказаў той жа Міхась Ткачоў, што вякамі нішто не дзяліла палякаў і беларусаў, пакуль не пачала дзяліць іх класавая ідэалогія, а дакладней — той, хто ёю карыстаўся.

Але вернемся да артыкула. Нельга, асабліва ў такіх далікатных справах, як нацыянальныя, жангліраваць лічбамі.

Не было калісь дакладных лічбаў, ды і цяперашнім я не веру. Бо калі перапіс робіцца алоўкам (хіба спецыяльна) і не заўсёды аб'ектыўным чалавекам (а такое здаралася часта), то лічбы будуць не тыя, што ў жыцці.

Ёсць у мяне «Rocznik statystyczny» 1937 года, але ці можна рабіць вывады аб нацыянальным складзе на падставе статыстыкі роднай мовы або веравызнання? Найбольш важна тое, што вёска каля вёскі, хата каля хаты здавён жылі беларусы з палякамі, і ніхто паміж сабой не сварыўся, а тым болей не ваяваў.

І ў Вялікім княстве Літоўскім, і ў Рэчы Паспалітай была вялікая павага да кожнага народа і кожнай рэлігіі, суіснавалі яны паміж сабой вельмі талерантна. Толькі таму магло дайсці да напісання Статута Вялікага княства Літоўскага ў 1588 годзе, прытым беларускім падканцлерам і на беларускай мове; тут адбылося добраахвотнае аб'яднанне рэлігій; тут у акружэнні імперый дайшло да стварэння другой у свеце Канстытуцыі; у Рэчы Паспалітай было знішчана прыгоннае права і пачала расці дэмакратыя, што і з'явілася прычынай раздзелу рэспублікі. І таму потым польскі і беларускі народы ў польскіх паўстаннях, лічыце, у кожным пакаленні змагаліся за вызваленне і дэмакратыю локаць ля локця.

Думаецца, за крыўды, прычыненыя беларусам польскай уладай, народ польскі ўжо стокроць адпакутаваў у 1939—1953 гадах і разлічыўся стокроць. Бо толькі ў 1940 годзе было знішчана 15000 афіцэраў і інтэлігенцыі, 1 мільён 114 тысяч палякаў вывезена з Украіны і Беларусі на Усход і Поўнач, знішчана ў сталінскіх лагерах 600 тысяч палякаў. Ці не занадта вялікая кара? А ці не пачаўся вываз палякаў з Усходняй Беларусі ўжо ў 1934 годзе? Пачытайце працы вучоных Сяргея Мікуліча і Мікалая Іванова з Польшчы. І было гэта не інтэрніраванне, а людабойства.

Дык давайце не будзем сёння лічыць, хто выехаў на Захад, а хто застаўся (паляк ці беларус). Я ведаю адно: выехалі не ўсе. Калі з вялікай сям'і майго дзеда палова аказалася на Захадзе ў час вайны і выехала пад час рэпатрыяцыі, то другая палова засталася ў Беларусі. Так і ў іншых. Палова вёскі там, а палова тут. Дык што? Той, хто выехаў — паляк, а той, хто застаўся на роднай зямлі,— беларус? Так і будзем сем'і дзяліць? Хіба той жа Керзон мог падзяліць нас справядліва, ці ж маглі ў Ялце правесці граніцу так, каб на захад ад яе былі толькі палякі, а на ўсход — толькі беларусы? Тым больш, што тут многае гісторыяй пераблытана.

Мы лічым, што артыкул А. Сідарэвіча абражае таксама і беларусаў, бо з яго атрымліваецца, што палякі ўсё жыццё з вялікай лёгкасцю апалячвалі і далей апалячваюць беларусаў, як бы ў беларусаў не было ніколі свайго «я». Але ж гэта не так. У складзе Рэчы Паспалітай тэрыторыі Беларусі і Літвы адразу ж адчулі пранікненне еўрапейскай культуры з Захаду. У той час у Вільні быў адкрыты універсітэт, і выхавана тут многа адукаванай інтэлігенцыі, якая пакінула ў гісторыі і культуры абодвух народаў адметны след. Зразумела, што ў той сітуацыі польская мова больш шырока выкарыстоўвалася, але існавалі нароўні з ёй як дзяржаўныя яшчэ тры: беларуская,

